PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

№ 28 (2252) Год XLIV Беласток 11 ліпеня 1999 г. Цана 1,20 зл.

VII Міжнародная канферэнцыя

## „Шлях да ўзаемнасці”

Ніна БАРШЧЭЎСКАЯ

15-16 чэрвеня ў Мінску адбылася ўжо VII па ліку Міжнародная канферэнцыя *Шлях да ўзаемнасці*, ініцыятарам і арганізатарам якой з'яўляецца Кафедра беларускай філалогіі Варшаўскага універсітэта і Польскае беларусазнаўчае таварыства. Сёлета ў якасці суарганізатараў далучыліся: Нацыянальны навукова-асветны цэнтр імя Ф. Скарыны пры Міністэрстве адукацыі Рэспублікі Беларусь ды Польскі інстытут у Мінску.

У канферэнцыі прыняло ўдзел 29 навукоўцаў з розных навучальных установаў Польшчы і Беларусі. Пасяджэнні праходзілі ў Цэнтры імя Ф. Скарыны ў той зале, у якой у 20-х гадах у часе беларусізацыі адбываліся пасяджэнні Інбелкульта (Інстытута беларускай культуры). Дарэчы, трэба адзначыць і той факт, што гэтая зала абсталявана сёння падобным чынам і прыгадвае слаўную беларускую мінуўшчыну. Удзельнікі сёлетняй Канферэнцыі сядзелі за доўгім сталом на лавах, а не ў крэслах. І, магчыма, навуковы дух перыяду беларусізацыі прычыніўся да таго, што выступоўцы прадстаўлялі вельмі цікавыя тэмы, у якіх закраналіся розныя польска-беларускія сувязі на розных этапах безупынных кантактаў паміж абодвума народамі і вялася вельмі ажыўленая дыскусія.

Адкрываючы Канферэнцыю, загадчык Кафедры беларускай філалогіі і старшыня Польскага беларусазнаўчага таварыства праф. Аляксандр Баршчэўскі прывітаў прысутных і прыгадаў гісторыю склікання Міжнароднай канферэнцыі *Шлях да ўзаемнасці*. Адначасова падкрэсліў, што ў часе двухдзённай дыскусіі польска-беларускія дачыненні будуць ацэньвацца на падставе фактаў і навуковага падыходу да тэмы, а не на падставе палітычных сімпатыяў. Затым даў слова дырэктару Польскага інстытута ў Мінску Тамашу Нягодзішу, які зычыў прысутным плённых вынікаў, а да вучоных з польскага боку звярнуўся з просьбай, каб пашыраць грунтоўную інфармацыю пра Беларусь сярод польскага грамадства, таму што, па ягоных словах, беларусы значна больш ведаюць пра Польшчу, чым палякі пра Беларусь. І, згодна з гэтым зычаннем, а таксама згодна з заявай мінскіх суарганізатараў: Любоў Уладыкоўскай-Канаплянік — дырэктара Цэнтра імя Ф. Скарыны і праф. Адама Мальдзіса — прэзідэнта Міжнароднай асацыяцыі беларусістаў аб слушнасці ідэі Канферэнцыі і аб жаданні далучэння да Канферэнцыі ў будучыні, удзельнікі Міжнароднай канферэнцыі *Шлях да ўзаемнасці* стараліся весці дыскусію ў навуковым

[працяг ☞ 10]


Дзеткі з літоўскага і беларускага прадшколля ў Пуньску.

# Пад знакам беларуска-літоўскай Пагоні

Ганна КАНДРАЦЮК

— Чаму тыя дзеці з Пуньска спявалі па-руску? — спытала мяне дачушка пасля візіту ў літоўскім прадшколлі.

— Ну, што ты! Яны спявалі па-свойму, па-літоўску. — Дзіва. Кажаш, што па-літоўску?.. А адна дзяўчынка з нашага прадшколля сказала, што па-літоўску — гэта па-беларуску. Яе так бабуля навучыла.

— А як гаварылі пра вас дзеці з Пуньска? — пацікавілася я ў сваю чаргу.

— Што мы рускія, — пачуўся дзіўны адказ.

— Па-літоўску беларусаў завуць балтарусамі, — талкавала я дачушцы, ашарашаная добравядомымі гістарычнымі асацыяцыямі беларуска-літоўскай мінуўшчыны. Яшчэ і сёння жыхары Ласінкі ці Нарвы завуць этнічных беларусаў з-за гістарычнай мяжы Вялікага княства Літоўскага ліцьвінамі, а іхную мову — ліцьвінскай. І я ў гады дачушкі думала, як бабуля яе сяброўкі, што ліцьвіны і беларусы адно і тое ж самае.

**Думка была даўно**

Паездка ў Пуньск атрымалася 18 чэрвеня г.г. у сонечны, ясны дзень.

— Думка, каб нашы дзеці наведалі літоўскае прадшколле была даўно, — кажа Барбара Пякарская. — Яшчэ арганізуючы наш дзіцячы садок мы ездзілі да літоўцаў, каб нечага навучыцца. І вось здарылася добрая нагода. Зараз у прадшколлі беларуска-літоўскае дзіця. Яго бабуля, Рута Карнілюк, пабачыўшы спектакль „Юр'еўскі карагод” запрасіла нас у Пуньск. Наведаць братоў-літоўцаў сабраліся многія бацькі дашкольнікаў і навучэнцаў з Пачатковай школы н-р 4, між іншым паэт Віктар Швед.

**Найважнейшая свядомасць**

У нацыянальным выхаванні найважнейшая свядомасць. Прадшколле ў Пуньску існуе з 1949 года. За час свайго існавання некалькі разоў памяняла памяшканне, а зараз знаходзіцца яно ў прасторным, дагледжаным будынку былой школы.

— Да 1982 года ў нас афіцыйна працавала польскае прадшколле, — расказвае Анна Вяжбіла, дырэктарка літоўска-польскага садка. — Аднак настаўніцы-літоўкі з літоўскімі дзеткамі гаварылі па-свойму. Вучылі іх літоўскіх песень і вершыкаў. Калі настаўніцай была полька, яна вучыла па-польску. Пасля, калі фармальна пачалі працаваць літоўскія і польскія аддзелы, усё таксама залежала ад свядомасці настаўніц.

Настаўнікі ў літоўскіх школах і прадшколлі — выпускнікі польскіх вышэйшых установаў.

— Працуем паводле польскай праграмы. На ўроках карыстаемся польскімі падручнікамі, якія перакладаем на літоўскую мову, — расказвае Анна Вяжбіла. Пані дырэктар цікавіцца сітуацыяй беларусаў. Цяжка зразумець ёй нашу нацыянальную шызафрэнію.

— З беларускай мовай я раней не мела кантакту. Бацькі выхоўвалі мяне выключна па-польску. Асноўныя беларускія словы я пачула ад свайго дзіцяці, што навучылася ў прадшколлі, — расказвае беластачанка, пані Данка.

У літоўцаў, у адрозненне ад беларусаў, з маленства прывіваецца любоў да роднай мовы. У літоўскіх аддзелах усе дзеткі размаўляюць па-свойму. Разумеюць яны польскую мову ды натуральна наладжваюць сяброўскія сувязі з аднагодкамі палякамі. Так ёсць у Пуньску

[працяг ☞ 3]

## Спірт трэба?

На вакзалах у Гародні і Бярэсці нярэдка можна сустрэць падарожнікаў, якія спірт з пластмасавых бутэлек альбо проста з каністраў пераліваюць у невялікія мяшочкі, шчыльна завязваюць і хаваюць у розныя сховішчы: запасныя колы аўтамашын, праёмы ў кузавах, пад падлогу вагонаў, а найчасцей пад уласную вопратку. Я сам нядаўнаназіраў за такім працэсам і здзівіўся колькі тавару можна на сабе схаваць!

[кантрабанда ☞ 3]

## Ці войт адмовіцца ад...

Цяперашні войт кіруе Арлянскай гмінай ужо трэцюю кадэнцыю. На апошняй сесіі таксама абяцаў, што ўжо ніколі не з'явіцца на працу ў нецвярозым стане. Заявіў ён таксама, што калі здарыцца яшчэ адзін такі інцыдэнт, адмовіцца ад пасады. Аднак гэта не першае такое абяцанне...

[нечарговая сесія ☞ 3]

## ... исчезнем как нация

„А может нам совсем не нужна независимость”, — пытае журналіст свайго суразмоўцу. „Если мы ее потеряем, мы быстро исчезнем как нация, особенно в плотных «братских» объятиях России, — адказвае Георгій Таразевіч.

[меркаванні вопытнага палітыка ☞ 4]

## Яны не глухія на словы

IV Агульнапольскі конкурс беларускай паэзіі і прозы, аб'яўлены рэдакцыяй „Нівы” і Беларускім саюзам набліжаецца да завяршэння. 25 чэрвеня дасланыя працы ацаніла міжнароднае журы. Аднак у гэтым годзе па фінансавых прычынах фінал конкурсу адбудзецца восенню.

[вынікі конкурсу ☞ 5]

## „Ненавіджу дождж і град!”

Маланкі білі прама туды і толькі туды. Лілася вада, хоць крок збоч не ўпала ні кроплі. Цяпер наўкол Нямігі ў Мінску чытаеш: „Ненавіджу дождж і град”. Сток гора, болю, нянавісці, брыды, хамства, глупства і злой энергіі праравў запоры. Чорнымі і крывавымі пісягамі запісалася гісторыя Нямігі.

[трагедыя ☞ 9]

# Беларусь — беларусы

## Рэха Нямігі

Афіцыйная дзяржаўная камісія, якая была створана пасля трагічных падзей на станцыі метро „Няміга" ў Мінску 30 мая, не знайшла вінаватых у смерці людзей і хібаў у дзеяннях праваахоўчых органаў. Аднак у гэта не вераць ні сваякі загінуўшых, ні грамадскасць.

28 чэрвеня праваабарончы цэнтр „Вясна-96", што выконвае функцыі выканаўчага органа Грамадскай камісіі па расследаванню трагедыі, выдаў прэсрэліз, у якім сабраны сведчанні журналістаў: тых хто быў каля ўваходу ў крывавы падземны пераход падчас здарэння і тых, хто прыехаў туды адразу пасля гібелі людзей.

З дакумента вынікае, што міліцыя нястолькі клапацілася пра ўратаванне пацярпелых, колькі пра тое, каб як мага меньш засталося дакументальных сведчанняў трагедыі. Так, фатограф, у прэс-рэлізе названы Анатолем, кажа, што ён не бачыў як міліцыянеры дапамагалі людзям. Па яго словах, пацярпелых выносілі звычайныя людзі, а міліцыянераў спачатку было толькі некалькі чалавек. Ён усё гэта здымаў. Бачыў, як кінулася ў натоўп ратаваць моладзь жанчына-ўрач, якая пасля сама загінула. Анатоль таксама зняў момант, як чыесьці рукі зрывалі з шыі непрытомнай дзяўчыны залаты ланцужок. Аднак, калі міліцыянераў стала больш, яны ў першую чаргу пачалі разганяць журналістаў. У Анатоля разбілі фотаапарат і засвяцілі стужку.

Другі фотакарэспандэнт, Сяргей, сцвярджае, што міліцыянеры тлумачылі свае дзеянні нежаданнем, каб на фотаздымках з'явілася начальства. Адзін з людзей у форме так яму і сказаў: „Начальства патрабуе, каб мы вас адсюль адагналі...".

Пра непрыязныя адносіны супрацоўнікаў праваахоўчых органаў да журналістаў праваабарончаму цэнтру „Вясна-96" паведамілі таксама карэспандэнт ПАП у Мінску Марцін Смялоўскі, карэспандэнт штодзёнкі „Gazeta Wyborcza" Цэзарый Галінскі і іншыя.

А сябра Рады Беларускай асацыяцыі журналістаў Уладзімір Дзюба распавёў, як на аднаго з замежных карэспандэнтаў напалі адразу тры амапаўцы. Яго прыйшлося ратаваць калегам. Адначасова Уладзімір Дзюба адзначыў: „Я б не сказаў, што некарэктна сябе паводзілі амапаўцы, але ж, магчыма, у нас свае меркі адносна талерантнасці міліцыянтаў да журналістаў. Пасля збіцця дубінкамі на мітынгах, пасля арыштаў — штуршок у спіну ўжо не ўспрымаецца як насілле. Хаця мы выказалі пратэст: так рабіць нельга — мы працуем і маем на гэта права".

Апытанне журналістаў гэта толькі адзін з накірункаў расследавання трагедыі „Вясной-96". Супрацоўнікі цэнтра працягваюць працу па высвятленню прычын здарэння і яго жахлівых вынікаў.

**Зміцер Кісель**

*Рэпартаж Міры Лукшы „Ненавіджу дождж і град!" пра трагічныя падзеі на станцыі метро „Няміга" ў Мінску* *чытайце на 9 старонцы.*

## Навіны з Віцебскага краю

У апошняй дэкадзе чэрвеня ў Віцебскай вобласці прайшлі страйкі на гарадскіх рынках. У Віцебску баставалі прадаўцы большасці прамысловых і харчовых тавараў на трох найважнейшых рынках. Паводле дадзеных абласнога прафсаюза прадпрымальнікаў „Садружнасць", бізнесменаў абласнога цэнтра падтрымалі гандляры Оршы, Полацка і Наваполацка. Рашэнне спыніць працу, калі мясцовае кіраўніцтва не прыслухаецца да патрабаванняў прадпрымальнікаў, было прынятае яшчэ 21 мая. 846 гандляроў выказалі незадаволенасць існуючымі правіламі сертыфікацыі тавараў, справаздачнасці па адрыўных талонах і праблемамі сацыяльнай абароны малога бізнесу. Праз тыдзень, 28 мая, цяжкасці прыватных прадпрымальнікаў абмяркоўваліся падчас нарады ў намесніка старшыні абласнога выканаўчага камітэта Мікалая Федарчука, дзе прысутнічалі прадстаўнікі падатковых службаў, цэнтра стандартызацыі, міліцыі. Кантралюючым органам былі дадзеныя даручэнні знайсці прымальныя для ўсіх бакоў рашэнні. Аднак такое развіццё сітуацыі не задаволіла прадпрымальнікаў. З першага чэрвеня распачаліся страйкі. У пятніцу забастоўшчыкі вырашылі вярнуцца на працоўныя месцы, бо тутэйшая ўлада зрабіла некаторыя ўступкі гандлярам. Інспекцыя падатковага камітэта па Віцебскай вобласці з пэўнымі ўмовамі пагадзілася на частковы перавод уліку з адрыўных талонаў на таварную справаздачнасць. Да таго ж падатковая служба не стане браць пеню з пратэрмінаваных плацяжоў за ўсе дні забастоўкі. Вырашана не канфіскоўваць несертыфікаваны тавар да 1 ліпеня. Як бачым, прафсаюзнікі з „Садружнасці" і віцебскія чыноўнікі дамовіліся па пытаннях, што ўваходзяць у кампетэнцыю толькі мясцовае ўлады. Астатнія праблемы гандляроў рынкаў абмяркоўваюцца на агульнадзяржаўным узроўні. Калі не будзе дасягнута дамоўленасць паміж дробнымі прадпрымальнікамі і выканаўчай уладай, то верагодны новы, але ўжо рэспубліканскі страйк.

**Юрась Сцяпанаў,**
**НРІА „Контур-INFO"**

Глыбокае спачуванне **Міколу Бушко**
з прычыны трагічнай смерці сястры
выказваюць —
Праўленне Аддзела БГКТ, члены Выбарчага камітэта і радныя Беларуска-народнага выбарчага камітэта ды Праўленне Грамадскага камітэта пабудовы Беларускага музея ў Гайнаўцы

## Малебны па ініцыятыве ТБМ

Як мы паведамлялі тыдзень таму, 27 чэрвеня ў галоўных праваслаўных храмах Беларусі, па ініцыятыве Таварыства беларускай мовы, адбыліся малебны за беларускую мову. У гэты ж дзень з просьбай да Бога абараніць роднае слова звярнуліся беларускія каталікі і пратэстанты.

Асновай малебнаў стала „Малітва за беларускую мову", якую напісала шаснаццацігадовая дзяўчына Марыя Заяц, вучаніца школы № 169 Мінска (поўны тэкст малітвы друкуем ніжэй). Напэўна шчыры дзіцячы зварот да Бога не мог не закрануць пачуццяў мітрапаліта Філарэта. Такім чынам у храмах Рускай праваслаўнай царквы на Беларусі, дзе беларуская мова практычна не выкарыстоўваецца, тысячы вернікаў адначасова маліліся за родную мову. Па словах старшыні ТБМ Алега Трусава, найбольш урачысты малебен адбыўся ў галоўнай праваслаўнай святыні Беларусі — Свята-Духавым кафедральным саборы.

Ініцыятыву ТБМ падтрымалі прадстаўнікі іншых рэлігійных канфесій. Пробашч мінскага касцёла св.св. Сымона і Алены Уладзіслаў Завальнюк, які заўсёды карыстаецца роднай мовай падчас благаслужбаў, заклікаў хрысціян краіны маліцца за адраджэнне беларускага слова. 27 чэрвеня малітва Марыі Заяц таксама зачытвалася ва ўсіх грэка-каталіцкіх прыходах Беларусі і ў шмат якіх пратэстанцкіх.

А 29 чэрвеня сябры ТБМ падмацавалі малітву справай. У Міхайлаўскім скверы Мінска яны арганізавалі пікет. Галоўнымі патрабаваннямі пікетчыкаў былі: захаванне назвы праспекта імя Францыска Скарыны, які Аляксандр Лукашэнка хоча назваць „праспектам Перамогі", стварэнне беларускамоўнага універсітэта і захаванне беларускага класа ў школе № 180 Мінска. Не зважаючы на жаданне бацькоў і дзяцей, адміністрацыя гэтай навучальнай установы хоча спыніць у школе выкладанне па-беларуску.

Як паведаміў для „Нівы" Алег Трусаў, пікет быў шматлюдным, бо ў ім прынялі ўдзел школьнікі і іх бацькі. За дзве гадзіны, якія былі дазволены ўладамі для правядзення акцыі, пад патрабаваннем захаваць назву галоўнага праспекта Мінска паставілі свае подпісы больш 200 чалавек. А стварэнне беларускамоўнай вышэйшай навучальнай установы падтрымалі каля 300 мінчукоў.

**Зміцер Кісель**

## Малітва за беларускую мову

*О, усемагутны Божа, Уладар неба і зямлі!*

*З дзіцячым даверам маім Цябе прашу: не пакідай нас і заставайся з намі. Выслухай жа нашыя малітвы: няхай людзі, расплюшчыўшы вочы, убачаць, на якой цудоўнай зямлі яны жывуць, і пачуюць, на якой мілагучнай мове яны могуць размаўляць. Бацька наш, Ты ўвесь свет стварыў і Духам Святым усё прасвяціў, ажывіў і ўпрыгожыў. Просім Цябе: надзялі ўсіх нас сілаю, бязмежным даверам, ахвярнаю шчырай любоўю да Бацькаўшчыны, дзе мы нарадзіліся, да той мовы, якая засталася нам у спадчыну ад нашых продкаў-беларусаў.*

*Мы, дзеці беларускага народа, імкнемся сумленна выконваць волю Тваю і запаветы Твае. У шчырай пакоры просім Цябе: злітуйся над тымі, хто адрокся ад сваёй мовы, даруй ім грахі, бо ці ёсць большы грэх, чым адрачэнне ад продкаў сваіх, ад каранёў, што жыццё нам далі. Прасвятлі, Госпадзі, іх розум, здымі чорную смугу з вачэй іхных. Хай успомняць, адкуль яны, хто яны, хай не цураюцца сваёй мовы, сваёй радзімы. Божа міласэрны, злітуйся над тымі, хто зневажае нашую мову, наш народ, нашую гісторыю, не карай іх жорстка, бо не ведаюць яны, што твораць.*

*Прашу Цябе, Святы Уладыка, пашлі нашаму народу еднасць, згоду і паразуменне нашым людзям у дачыненні да сваёй Радзімы Беларусі.*

*Ухвалі, Ойча, працу настаўнікаў, пісьменнікаў, вучоных і ўсіх іншых патрыётаў-беларусаў на карысць Адраджэння мовы нашай беларускай.*

*О, наймагутны Божа, зрабі так, каб мы, дзеці Беларусі, ніколі не пакідалі нашай беларускай мовы, а наадварот, усім сэрцам любілі яе. А таксама не пакінь, Божа, тых, хто смуткуе і тужыць па сваёй Радзіме, і асабліва тых, хто паддаўся спакусам, што адводзяць ад веры ў Беларусь. Пашлі беларускаму народу сваіх служак, якія набожным жыццём вялі б наш люд да лепшае долі, да свядомага служэння Айчыне. Пачуй, Божа, малітву маю і зрабі тое, пра што прашу! Аман.*

***Марыя Заяц, вучаніца 10 класа***
***Сярэдняй школы № 169 г. Мінска***

## Бомба для дэпутатаў

Сваё чарговае пасяджэнне дэпутаты апазіцыйнага Вярхоўнага Савета 13-га склікання пачалі ў рэстаране, а скончылі на дзіцячай пляцоўцы.

23 чэрвеня г.г. парламентарыі сабраліся ў мінскім рэстаране „Полнолуние", каб абмеркаваць магчымыя падзеі ў Беларусі пасля 20 ліпеня, калі скончыцца афіцыйны тэрмін паўнамоцтваў прэзідэнта Аляксандра Лукашэнкі і прыняць з гэтай нагоды зварот. Аднак праз паўгадзіны пасля пачатку пасяджэння ў рэстаране з'явіліся міліцыянеры і паведамілі, што ў памяшканні закладзена бомба і ўсім прысутным неабходна пакінуць рэстаран. Звыклыя да падобных дзеянняў улад дэпутаты адмовіліся падпарадкоўвацца. Не выйшлі яны і пасля таго, як прыехалі сапёры. Толькі ўзброены атрад АМАПа здолеў „угаварыць" апазіцыянераў падпарадкавацца. Прычым супрацоўнікі праваахоўчых органаў праявілі „клопат" толькі аб жыцці дэпутатаў. Іншых людзей, якія знаходзіліся ў будынку рэстарана ніхто эвакуіраваць не збіраўся.

Удзельнікі пасяджэння перамесціліся на бліжэйшую дзіцячую пляцоўку і там прынялі зварот да прэзідэнта. Дакумент у чарговы раз нагадвае Лукашэнку, што праз месяц ён не зможа лічыцца дэмакратычна абраным кіраўніком дзяржавы. „Вы не можаце не ведаць, што ўтрыманне ўлады зверх вызначаных Канстытуцыяй тэрмінаў кваліфікуецца як дзяржаўнае злачынства. Больш таго, гэтыя дзеянні могуць прывесці да масавага грамадзянскага непадпарадкавання ўладам, якія страцілі сваю легітымнасць. І ўсе наступствы за такое разгортванне падзей лягуць на Вас і Ваш урад", — гаворыцца ў звароце. Адначасова дэпутаты заявілі пра неабходнасць распачаць перамовы паміж прэзідэнтам і Вярхоўным Саветам.

Аляксандр Лукашэнка пакуль ніяк не адрэагаваў на зварот апазіцыйнага парламента.

**Зміцер Кісель**

# Ці войт адмовіцца ад...



Радныя Арлянскай гміны.

11 чэрвеня г.г. Камісія па справах самаўрада і камунальнай маёмасці Рады гміны ў Орлі выступіла з патрабаваннем склікаць нечарговую сесію. Тэмай пасяджэння мела быць адкліканне Міхала Іванчука з пасады войта Арлянскай гміны. У абгрунтаванні прапановы старшыня камісіі Аляксандр Шыманскі напісаў: „Войт Іванчук зняважліва ставіцца да радных, не шануе ні сябе, ні гміны, з-за чаго абыякава ставяцца да нас павет і ваяводства. Штрафаванне войта за выкананне службовых абавязкаў у нецвярозым стане не вырашае праблемы. Войт раней атрымаў ад рады шанц паправіцца, але ім не пакарыстаўся".

Апошні інцыдэнт з п'яным войтам здарыўся 1 чэрвеня. У выніку патрабавання павятовага раднага Юзафа Бжаны ў Орлю прыехала паліцыя, якая сцвердзіла 2,57 праміля алкаголю ў крыві Міхала Іванчука. У мінулых гадах таксама здараліся падобныя інцыдэнты і частка радных прабавала адклікаць яго з пасады, аднак безвынікова.

Нечарговая сесія адбылася 22 чэрвеня. Аднак старшыня Рады Яўген Зіневіч на сесію не запрасіў ні павятовага старасты, ні павятовага каменданта паліцыі, што прапанавалі члены камісіі, а толькі двух павятовых радных з тэрыторыі Арлянскай гміны — Юзафа Бжану і Мікалая Кадлубоўскага. Павышаную цікавасць да нечарговай сесіі праявілі сродкі масавай інфармацыі.

Спачатку старшыня Рады зачытаў абгрунтаванне камісіі аб прычыне склікання нечарговай сесіі. У ім пералічваўся шэраг здарэнняў, у якіх войт Міхал Іванчук удзельнічаў у п'яным відзе. Напрыклад, выбары солтысаў, наведванне аднаго з радных, сустрэча з раднымі Дубіцкай гміны, юбілей мясцовага настаяцеля, засяданне рэвізійнай камісіі і г.д.

Войт тлумачыўся, што 1 чэрвеня быў у водпуску і ўвайшоў у будынак гміны на хвіліну за дакументамі. Радныя аспрэчылі гэтае выказванне, паколькі войт у гэты дзень прымаў наведвальнікаў, а заяву аб водпуску напісаў ужо пасля інцыдэнта. У якасці доказу быў прынесены спіс прысутных, на якім ужо два дні войт не распісваўся.

— Войт не распісваецца, бо пераважна працуе ў п'яным відзе, і калі б здарыўся чарговы інцыдэнт, то пазначыў бы, што знаходзіўся тады ў водпуску, — пракаментаваў радны Аляксандр Шыманскі.

Упершыню старшыня Рады паводзіў сябе на сесіі бесстаронна, заўважыўшы, што няважна ці войт быў у водпуску ці не, але ў месцы работы не павінен з'яўляцца ў нецвярозым стане. За войтам заступіўся толькі адзін радны Сцяпан Гаворка з Кашалёў, які абвінаваціў павятовага раднага Юзафа Бжану ў перавышэнні сваіх кампетэнцый, калі спыніў п'янага Іванчука і не дазволіў яму ад'ехаць на машыне (паводле яго, такое права мае толькі паліцыя).

Радны і заадно старшыня Рэвізійнай камісіі Сцяпан Цімафяюк прыгадаў усім радным змест прысягі, якую радныя давалі на першай сесіі.

— За што радны бярэ грошы і што сабой ён прадстаўляе? Як некаторыя з вас адчуваюць сябе? Дзе ж ваша маральнасць? — пытаў ён прысутных.

У зале запанавала цішыня. Войт Іванчук далей працягваў тлумачыць, што 1 чэрвеня ён не працаваў. Тады старшыня Рады Яўген Зіневіч сказаў войту:

— Добра было б, каб войт хаця б адзін раз папрасіў прабачэння ў гмінных радных і павятовага раднага Бжаны. І вы пра некаторыя справы не павінны гаварыць, — падкрэсліў.

Міхал Іванчук неахвотна, але ўсё ж такі перапрасіў сабраных і сказаў:

— Мне ўжо надаела г.зв. праца, бо таго, што добрае, ніхто не бачыць. Апошні год усялякія кантролі з Управы гміны не выходзілі. Адны ад'язджалі, дык другія прыязджалі... Як у такой нервовай атмасферы працаваць!

Далей войт абвінаваціў радных, што гавораць няпраўду. На гэта адазваўся радны Сцяпан Цімафяюк:

— Калі войт не мае ўжо сілы працаваць, хай адмовіцца ад пасады. Няхай з гонарам развітаецца!

У далейшай дыскусіі войту было даказана, што кантролі прыязджалі з прычыны невыканання войтам іхніх ранейшых указанняў. Радныя сталі дакарць войта, што на сесіі ён звычайна не адказвае на пытанні радных, не стараецца пра датацыі для гміны, запалохвае працаўнікоў гміннай адміністрацыі і жыхароў вёсак. Каб не прадаўжаць абвінавачванняў старшыня Рады прапанаваў правесці галасаванне ў справе адклікання Міхала Іванчука з пасады войта. Перад галасаваннем выступіў радны Мікалай Рэнгайла, які сказаў:



Войт у чарговы раз каецца.

— Я перакананы, што сёння не адклічам войта. Усе мы аднак павінны быць згодны ў тым, што калі яшчэ раз войт будзе нецвярозы на рабоце, то няхай сам на другі дзень адмовіцца ад пасады.

У Радзе гміны Орля засядае 18 радных, у сесіі прысутнічала 17 абраннікаў. Каб адклікаць з пасады войта трэба было б набраць 13 галасоў. За адкліканне выказалася толькі 9 радных, 7 асоб было супраць, а адзін голас аказаўся няважны.

Міхал Іванчук кіруе Арлянскай гмінай ужо трэцюю кадэнцыю. На апошняй сесіі таксама абяцаў, што ніколі не з'явіцца на працу ў нецвярозым стане. Заявіў ён таксама, што калі здарыцца яшчэ адзін такі інцыдэнт, адмовіцца ад пасады. Аднак гэта не першае такое абяцанне...

**Міхал Мінцэвіч**

*Фота аўтара*

# Пад знакам беларуска-літоўскай Пагоні

[1 ☞ працяг]

і наваколлі, дзе дзейнічае літоўскае школьніцтва і культурна-грамадскі рух, дзе пражывае свядомая інтэлігенцыя. Па-рознаму бывае з „цвёрдасцю" літоўцаў у наваколлі Віжайн ці Сейнаў. Там, дзе няма нацыянальнага школьніцтва, дзе не хапае пазітыўных узораў, парываюцца традыцыі, літоўцы звычайна паддаюцца паланізацыі.

**Земляробы з вышэйшай адукацыяй**

Пуньск уражвае дбайнасцю і гаспадарнасцю. У мястэчку (тысяча жыхароў) шмат прыватных крамаў і ларкоў. У самой мясціне часта сустракаем драўляныя мяшчанскія дамы. На некаторых будынках літоўскамоўныя шыльды. Вёска, пабудаваная паводле каланійнага тыпу (хата ад хаты знаходзіцца нават кіламетр), вылучаецца багаццем і эстэтыкай. Тутэйшыя земляробы не будуць мець комплексаў горшасці ў Еўрапейскім Саюзе. Многія земляробы з вышэйшай адукацыяй. Сярод іх — магістры фізікі ці паланісты, якія пасля заканчэння універсітэтаў вярнуліся даглядаць і будаваць сваю малую айчыну. У Пуньску гаворыцца нават пра звышпрадукцыю інтэлігенцыі.

**Літоўская прабабка з Ашкіняў**

Пасля выступлення ў Пуньску наведваем Ашкіні, родную вёску Руты Карнілюк. На панадворку сустракае нас ветлівая прабабка нашага беларуска-літоўскага дашкольніка Ігара, Анеля Максімовіч (пра сям'ю Максімовічаў пісаў Сакрат Яновіч у сваёй славутай кніжцы „Białoruś, Białoruś..."). У цяні старых ліп і яблынь, засаджаных яшчэ даваенным дзеячам і асветнікам Юозасам Максімавічусам, адпачываем ад чэрвеньскай спякоты. Гаспадыня, Анеля Максімовіч, жыве ў прасторным доме ды цудоўнай зялёнай сялібе.

— Адна я, разам з верным сабакам і дрэвамі, — адзначае.

Яе дачка, пані Рута Карнілюк, па прафесіі паланістка.

— Свайго ўнучка Ігара хачу навучыць літоўскай мове, — кажа.

Пакуль што малеча гаворыць толькі па-беларуску і па-польску. Затое сын пані Руты, Пятро, натуральна валодае мовай бацькоў: літоўскай ды беларускай. У Пуньску ён выступаў як акцёр і наш перакладчык. У спектаклі прымала ўдзел таксама ягоная жонка, сімпатычная пані Тамарка, родам з Рэпіскаў, што на Гайнаўшчыне.

**Супольная Пагоня**

Пасля падарожжа ў Пуньск дачушка распытвала не толькі пра мову сваіх новых сяброў. У тамашнім прадшколлі яна прыкмеціла выяву Пагоні. Такі ж самы герб вісіць і ў беларускім прадшколлі ў Беластоку.

**Ганна Кандрацюк**

*Фота аўтара*

# Спірт трэба?

Гэтае пытанне можна вельмі часта пачуць робячы пакупкі на рынку. Многія, скушаныя нізкімі цэнамі на гэты „патрэбны" прадукт, купляюць яго і часта расплачваюцца за гэта сваім здароўем.

Спірт і цыгарэты з'яўляюцца цяпер самымі прыбытковымі таварамі, якія прывозяцца з-за ўсходняй мяжы. Бутэлька гарэлкі ў беларускіх магазінах каштуе ў пераліку крыху больш 2 злотых, а пачка добрых цыгарэт толькі залатоўку. Але гандляры ў пагоні за высокім наварам купляюць неразбаўлены спірт невядомага паходжання намнога танней, чым у магазінах, а цыгарэты проста ад аптавікоў, якія прадаюць падробленыя вырабы пад шыльдай вядомых тытунёвых канцэрнаў. Польскія мытныя законы забараняюць прывозіць у краіну больш бутэлькі гарэлкі і блока цыгарэт, але мытнікі не могуць дакладна праверыць усіх „гасцей" і часта яны перавозяць намнога больш чым дазваляе закон.

На вакзалах у Гародні і Бярэсці нярэдка можна сустрэць падарожнікаў, якія спірт з пластмасавых бутэлек альбо проста з каністраў пераліваюць у невялікія мяшочкі, шчыльна завязваюць і хаваюць у розныя сховішчы: запасныя колы аўтамашын, праёмы ў кузавах, пад падлогу вагонаў, а найчасцей пад уласную вопратку. Я сам нядаўна назіраў за такім працэсам і здзівіўся колькі тавару можна на сабе схаваць! Разліты ў мяшочкі спірт мужчыны і жанчыны хавалі ў вельмі інтымныя месцы! Там мытнікі рукамі правяраць не будуць. Аж страшна падумаць, што было б, каб такі мяшочак развязаўся альбо парваўся? Гэта ўжо прафесійная рызыка. Блокі цыгарэт таксама хаваюцца ў розныя месцы, а найчасцей аддзельныя пачкі шарэнгамі запіхваюцца ў сшытыя дзве вялікія камізэлькі, якія на чалавеку выглядаюць як армейскі бронежылет. Чаго толькі не робіцца, каб абхітрыць мытнікаў!

Кантроль на мяжы толькі некаторым не ўдаецца прайсці паспяхова, астатнія яшчэ ў аўтобусах і цягніках праводзяць адваротны працэс — спірт пераліваюць у бутэлькі і ўмела закручваюць так, што і на заводзе не зробяць гэтага лепей, а пачкі цыгарэт зноў запакоўваюць у блокі.

Калі справа з цыгарэтамі выглядае яшчэ нядрэнна, бо падроблены тавар пагражае задыміць лёгкія курцоў толькі большымі дозамі смалістых рэчываў, то гарэлка зробленая са спірту невядомага паходжання можа выклікаць моцныя галаўныя болі пасля пахмелля, альбо і смяротнае атручванне арганізму. Аднак пакуль паміж Польшчай і Беларуссю будзе існаваць вялікая розніца цэн на алкагольныя вырабы, то нелегальны ўвоз у нашу краіну будзе далей прадаўжацца і не дапамогуць мытныя кантролі, бо заўсёды знойдуцца кемлівыя дзелавікі, якія вынайдуць спосаб перавезці тавар праз мяжу.

**Андрэй Мароз**

# „Беларусы ў свеце”

**З Іванам Іосіфавічам ЯНОВІЧАМ, намеснікам старшыні Дзяржкамітэта па справах рэлігій і нацыянальнасцей размаўляе Міра ЛУКША.**

***— Чым займаецца Ваш камітэт, якія яго мэты і задачы, структура. Ці ёсць нейкія ўстановы на месцах? Колькі чалавек працуе ў камітэце?***

— 11 студзеня 1997 года пачаў сваю працу Дзяржкамітэт па справах рэлігій і нацыянальнасцей, галоўнымі задачамі якога з'яўляюцца рэгуляванне дзяржаўна-царкоўных адносін, каардынацыя дзеянняў міністэрстваў і іншых органаў кіравання, грамадскіх арганізацый у сферы міжнацыянальных адносін, адносін з беларускай дыяспарай, садзейнічанне захаванню і развіццю культуры нацыянальных супольнасцей у Беларусі, а беларускай культуры за мяжой. Структура камітэта адпаведная: кіраўніцтва камітэта, аддзел па справах рэлігій і аддзел па справах нацыянальнасцей. Усяго ў камітэце працуе 14 чалавек. У аблвыканкамах і Мінскім гарвыканкаме ёсць аддзелы па справах рэлігій і нацыянальнасцей.

***— Што камітэтам робіцца для беларусаў Польшчы, якія ёсць прапановы па супрацоўніцтве?***

— Супрацоўніцтва з беларусамі Польшчы развіваецца ў адпаведнасці з Дзяржаўнай праграмай „Беларусы ў свеце”. Пры падтрымцы камітэта мастаком Эдуардам Агуновічам быў зроблены мастацкі праект экспазіцыі Музея і асяродка беларускай культуры ў Гайнаўцы, навукоўцамі Беларусі праведзены даследаванні нацыянальна-культурнага развіцця беларусаў Беласточчыны, аказана фінансавая дапамога ў выданні „Беларускага календара”, кнігі Сакрата Яновіча „Сцяна”. Далейшае супрацоўніцтва будзе ажыццяўляцца ў адпаведнасці з прапановамі беларускіх арганізацый. Значная праца па іх рэалізацыі праводзіцца міністэрствамі культуры і адукацыі Рэспублікі Беларусь, мясцовымі ўладамі Гродзенскай і Брэсцкай абласцей, іншымі дзяржаўнымі і грамадскімі ўстановамі.

***— Што робіцца для палякаў у Беларусі? Якія ёсць праблемы?***

— У рэспубліцы на сённяшні дзень выдаюцца два часопісы і чатыры польскамоўныя газеты. Орган Саюза палякаў на Беларусі газета „Głos znad Niemna” часткова фінансаваная з дзяржаўнага бюджэту і ўключана ў спіс грамадска значных выданняў. Распрацоўваецца пытанне фінансавай падтрымкі польскамоўнаму часопісу „Słowo Ojczyste”. На Гродзенскім тэлебачанні і радыё штотыднёва выходзяць у эфір перадачы на польскай мове пад рубрыкамі: „Nad Niemnem” і „Magazyn Grodzieński”. Разам з Беластоцкім тэлебачаннем Гродзенская студыя рыхтуе штомесячную праграму „Суседзі”. Наладжаны пастаянны праграмы і інфармацыйны абмен з Радыё Беласток. Многія культурныя праекты польскіх нацыянальна-культурных аб'яднанняў ажыццяўляюцца пры падтрымцы мясцовых дзяржаўных органаў кіравання. Мясцовыя органы ўлады прадстаўляюць памяшканні для рэпетыцый самадзейных калектываў польскай песні і танца, школ выхаднога дня па вывучэнні польскай мовы. Аддзеламі культуры аказваецца дапамога ў падборы метадычнага рэпертуару, аплачваецца праца кіраўнікоў шэрагу мастацкіх калектываў.

У 1996 годзе ў Гродне была адкрыта першая ў рэспубліцы сярэдняя школа з польскай мовай навучання, дзе ўсе прадметы выкладаюцца на польскай мове, акрамя беларускай і рускай мовы і літаратуры, гісторыі і геаграфіі Беларусі. Класы з польскай мовай навучання працуюць у Брэсце, Навагрудку, Мінску, Лідзе, Ваўкавыску, мястэчку Сапоцькіна. Факультатыўна альбо як прадмет польскую мову вывучаюць каля 15 000 дзяцей ва ўсёй Беларусі.

Але на сёння, на жаль, існуюць і некаторыя праблемы — усё ж не хапае ў дастатковай колькасці сучасных падручнікаў на польскай мове, кваліфікаваных педагагічных кадраў. Гэтыя праблемы планава вырашаюцца адпаведна нашым магчымасцям.

З 1992 года па 1997 Міністэрствам адукацыі Рэспублікі Беларусь былі выдадзены падручнікі польскай мовы і літаратуры з 1 па 10 класы. У 1999 г. плануецца выданне хрэстаматыі па польскай літаратуры для 11 класа. Ажыццяўляюцца праграмы перакладу на польскую мову падручнікаў матэматыкі і „Чалавек і свет” для 1—4 класаў з польскай мовай навучання.

На 2000 год запланавана выданне падручнікаў матэматыкі і „Чалавек і свет” для другога класа, для чацвёртага класа — інтэграваны падручнік па польскай мове і літаратуры. Рыхтуецца да выдання новае пакаленне падручнікаў польскай мовы для 1—10 класаў.

У Гродзенскім універсітэце адкрыта аддзяленне польскай філалогіі, у Гродзенскім педвучылішчы — спецыялізацыя „польская мова”, у Інстытуце павышэння кваліфікацыі настаўнікаў (Гродна) арганізаваны курсы выкладчыкаў польскай мовы. Кожны год у адпаведнасці з існуючымі пагадненнямі 80 настаўнікаў выязджаюць на курсы ў Польшчу.

***— Які лёс выданняў твораў Кірвеля, Лукшы і іншых беларускіх аўтараў з „блізкага замежжа”, якія планаваліся раней на 1999 год? Ці будуць на іх грошы?***

— Выданне азначаных твораў запланавана камітэтам, аднак у сувязі з абмежаванасцю сродкаў яно перанесена на больш позні тэрмін.

***— Дзякуем Вам за інфармацыі, а таксама за беларускія газеты і часопісы, якія атрымліваем у нашай рэдакцыі (пра што дбаюць Вашы супрацоўнікі), якімі дзелімся з нашымі чытачамі і наведвальнікамі рэдакцыі.***

# „Вясёлкавы лаўр” Сакрату Яновічу

Лаўрэатам „Вясёлкавага лаўра” — агульнапольскай узнагароды, якая прысвойваецца за пашырэнне ідэі талерантнасці ў адносінах да меншасцей стаў Сакрат Яновіч. Атрымаў ён гэтую ўзнагароду за публіцыстыку, прысвечаную нацыянальным меншасцям і адносінам да іх з боку большасці грамадства.

Узнагарода, якую заснавалі прадпрымальнік Яраслаў Эндэр і журналіст Славамір Стараста, прысвойваецца ўжо другі год. У ліку мінулагодніх лаўрэатаў былі, між іншым, журналістка Моніка Алейнік, парламентары Зофія Куратоўска і Мікалай Казакевіч. Сёлета ўзнагароду атрымалі таксама былы маршалак Сейма Аляксандр Малахоўскі, шэф Хельсінскага фонду Марк Навіцкі, пісьменніца і філосаф культуры Марыя Шышкоўска, юрыст Лех Фаляндыш і шэф гуманітарнай арганізацыі МОНАР Марк Катаньскі.

# ... исчезнем как нация

У месячніку „Беларусь” (н-р 4) паказалася вельмі цікавае інтэрв'ю з апазіцыйным палітыкам Георгіем Таразевічам. Асаблівасць гэтай публікацыі заключаецца ў тым, што рэжымны часопіс змясціў выказванні чалавека, які паказвае найнавейшую гісторыю Беларусі як працяг памылковых рашэнняў на найвышэйшых вярхах улады. Для тых чытачоў „Нівы”, якія менш цікавяцца палітыкай прыгадаем, што Георгі Таразевіч сваю апошнюю працу выконваў у Варшаве, у якасці пасла Рэспублікі Беларусь. Раней быў старшынёй Вярхоўнага Савета БССР і старшынёй камісіі Вярхоўнага Савета СССР, членам Палітычнага Бюро Цэнтральнага Камітэта Камуністычнай партыі Беларусі. Будучы паслом у Варшаве адкрыта выступіў супраць палітыкі А. Лукашэнкі накіраванай на знішчэнне незалежнасці краіны, крытыкаваў рэферэндум 1995 г. і адмену нацыянальнай сімволікі, паказваў абсурднасць стратэгіі прэзідэнта Беларусі. Зразумела, што пры такім стаўленні да палітычнай рэчаіснасці доўга не мог быць лукашэнкаўскім дыпламатам. Пункт гледжання гэтага палітыка хочам прыблізіць чытачам „Нівы” асабліва таму, што адрозніваецца ён рашуча ад поглядаў лідэраў апазіцыі, а прытым, як здаецца, няма ў выказваннях Г. Таразевіча ніякага крутельства.

Георгі Таразевіч лічыць, што нацыянальны нігілізм беларусаў сфармаваўся ў выніку бурлівых эканамічных і грамадскіх пасляваенных пераўтварэнняў. У Беларусь прыязджалі будаваць гарадскую і прамысловую інфраструктуру спецыялісты з Расіі. Выхадцы з беларускіх вёсак паразумяваліся з імі на іхняй мове, маргіналізуючы сваю родную. „Белорусы всегда отличались умением приспособливаться к обстоятельствам, начальству”. Другім фактарам, які рашуча паўплываў на саветызацыю рэспублікі былі кадры. Пасля вайны пайшла тэндэнцыя, каб на сакратароў Цэнтральнага Камітэта кампартыі ў рэспубліках назначаць людзей карэннай нацыянальнасці. Пасля смерці Сталіна стала гэта амаль правілам ва ўсіх рэспубліках, апрача Беларусі. „До 70-х годов первые секретари ЦК были не более чем ретрансляторами воли Москвы”, — гаворыць Таразевіч. Пасля русіфікацыя партыйных элітаў і беларускай інтэлігенцыі пайшла так далёка, што амаль знікла нацыянальная думка.

Эпоха Гарбачова пачалася ў Беларусі ад назначэння Масквой на першага сакратара ЦК КПБ Яфрэма Сакалова, чалавека без палітычных амбіцыяў і талентаў. Яго галоўным козырам было сяброўства з Анатолем Лук'янавым — найбліжэйшым супрацоўнікам Гарбачова. У той час на рэспубліканскіх лідэраў камуністычнай партыі назначаліся дзеячы такога фармату як Бразаўскас у Літве. Калі пачаліся змены, у Беларусі не было лідэра зацікаўленага адстойваць нацыянальныя інтарэсы.

„А может нам совсем не нужна независимость”, — пытае журналіст свайго суразмоўцу. — „Если мы ее потеряем, мы быстро исчезнем как нация, особенно в плотных «братских» объятиях России, — адказвае Таразевіч. — Другое дело, кто эту независимость будет отстаивать. Всё не так просто. Есть и во властных высоких кабинетах много искренних сторонников реальной независимости страны. Но чтобы проявить это, им нужны определенные условия. Это тоже белорусы, а значит — очень и очень осторожные люди”. **(ям)**

# Узнагарода Духа Святога

Беластоцкае дабрачыннае таварыства „Валанцёры” прысвоіла Генеральнаму консулу Рэспублікі Беларусь у Беластоку Мікалаю Крэчку „падзячны акт з запісам у залатую кнігу”.

— Але найважнейшае тое, што спадар Крэчка абняты пажыццёва імшой у яго карысць. Гэта найважнейшая ўзнагарода, якую адзін чалавек можа даць другому, — кажа старшыня таварыства „Валанцёры” Ян Баўм.

— Я папраўдзе не ведаю, што гэта за ўзнагарода, — гаворыць Мікалай Крэчка. — Мне ніхто непасрэдна нічога не паведамляў, а пагатоў ніхто нічога не даваў. Узнагарода, пакуль, жыве ў медыяльным свеце. Ну, але дзякуй, асабліва за малітву.

— Пры нашым таварыстве дзейнічае валантарыят журналістаў, — расказвае Ян Баўм, — гэта таму інфармацыя пра ўзнагароды паявілася ў прэсе раней, чым пачулі пра іх самі ўзнагароджаныя. Дарэчы, наша задума такая, каб кожны адзначаны ўстанавіў сабе час і форму, калі атрымае нашу ўзнагароду. Спадар консул аказаў бясцэнную дапамогу нашым экуменічным пілігрымкам з Беластока праз Гродна ў Вільню пры перасячэнні польска-беларускай мяжы і падчас прабывання паломнікаў на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь (каб вы бачылі, як нас там усюды цёпла прымалі!). Гэта добрасардэчны і надзвычай сімпатычны чалавек. Нашы сэрцы пакарыў ён словамі: „Калі пайшло пяць пілігрымак, пойдзе і шостая”.

— Гэтыя людзі звярталіся да мяне некалькі разоў за дапамогай, — кажа Мікалай Крэчка, — а паколькі арганізоўцы мірныя, дружалюбныя пілігрымкі, я стараўся дапамагчы ім і на мяжы, і каб у Беларусі ставіліся да іх як найлепш.

Пілігрымкі з Беластока ў Вільню адпраўляюцца кожны год 19 жніўня. У Кузніцу паломнікаў вязуць на аўтобусах, а далей ідуць яны пешшу. Гэта найбольш канкрэтная інфармацыя, якую ўдалося атрымаць ад Яна Баўма. Бо пра само таварыства „Валанцёры” расказвае ён насколькі многа, настолькі блытана. Раз гэта беластоцкая арганізацыя, іншым разам агульнапольская з аддзеламі дзесьці ў Варшаве і ва Вроцлаве, а яшчэ іншы — сусветная, з прадстаўнікамі ў Парыжы, ЗША, Канадзе, Аўстраліі „і так далей”, як гаворыць спадар Баўм. А пры тым усім, „усё абапіраецца на добрых людзях, бо мы не маем нават свайго офіса”.

Не да канца вядома, якое дачыненне мае таварыства да пілігрымак у Вільню. Дзейнічае яно, здаецца, два гады, а пілігрымкі ідуць шэсць гадоў. Іх экуменізм заключаецца ў тым, што арганізуюць іх католікі, але могуць прымаць удзел праваслаўныя, пратэстанты, атэісты і іншыя. Ці прымалі, невядома. Невядома, ці будзе яна і ў гэтым годзе, бо таварыства „Валанцёры” збірае рэлігійныя вершы „з Польшчы і з усяго свету” („гэтага ў гісторыі чалавецтва не было” — Ян Баўм), каб выдаць іх пад адной вокладкай і завезці ў будучым годзе з „найважнейшай пілігрымкай” у Ватыкан і падараваць папу Яну Паўлу II. А на гэта патрэбны грошы.

Але старшыня Ян Баўм верыць у добрых людзей і заступніцтва Святога Духа.

— Людзі гавораць, што ўсё дае мне Святы Дух, — кажа. — Вось, відаць і вас з „Нівы” таксама ён прыслаў.

**Мікола ВАЎРАНЮК**

# Паклонніца літаратуры

Задажджылася кастрычніцкая субота. Нагінаючы да зямлі сырыя, абшарпаныя крылы хмурын, кароткі дзень шпарка пайшоў на спад. Базарны гоман аддаляўся, расплываўся ў шэрых закавулках і знікаў там, затоптаны спешнымі крокамі, заглушаны восеньскім паветрам. Людзі пад парасонамі трушком спяшалі дамоў, прыбіраючы старанна апошнія клопаты дня.

Мястэчка пераступала той нябачны, а характэрны для ўсіх невялікіх мястэчак парог, за якім у восеньскія і зімовыя адвячоркі існуе ўсё ва ўмоўным адно значэнні, а натоўп, раздзелены на паасобныя адзінкі, жуе ў задуме мінуўшчыну, зусім ігнаруючы цяперашні, як і будучы час.

Я таксама падумаў, ці не пара ўжо збірацца, апрануў паліто і капялюш, патушыў святло. Зрабілася ціха і цёмна, і толькі вокны зялёным, у ліхтароў пазычаным святлом разлажыліся на каменных паркетах. Ад гэтай зелені так і падумалася: ненатуральнае тут усё, нежывое, мінулае, як адбіццё часу і здарэнняў у каменным люстэрку. За дзвярыма азваўся званок і пабег на паркеты, жывымі іскрынкамі, збянтэжыў, разбудзіў каменную абыякавасць. І спыніў мае роздумы над тайным абліччам свету.

Дзвярэй у нас сотні, ключоў — можна здагадацца — у тры разы больш — і пакуль прыстасаваў я слушны ключ да адпаведнай дзіркі, званок паўтарыўся.

На парозе стаяла маладая дзяўчына. Дробная, невялікая, зморана дарогай, знясіленая дажджом і холадам.

— Я з Мінска, студэнтка, — сказала і назвала сваё прозвішча. — За фальклорам хадзіла,ноткі запісвала. Не бач калі і дзень зляцеў. Вось і шукаю начлег. А добрыя людзі сюды накіравалі. Не адкінеце, а? — усміхнулася адсланяючы роўненькі, беленькі радок зубочкаў.

У гэтым „не адкінеце, а" было штосьці і дзіцяча разгубленае, і па-жаноцку какетлівае, ды яшчэ і тое неназванае, што загадала мне шырэй раскрыць дзверы, правесці дзяўчыну на другі паверх і раскватараваць яе ў гасцінным пакойчыку.

— Тут будзе ваш ложак, там вось шафа, а туалет — калідорам налева, — сказаўшы ўсё, я адступіў крок назад, прытрымаўся на парозе. Хацелася паглядзець яе маладосць — зморанную — усё ж такі жывую, і з-за жывучасці гэтай, ненатуральна дзіўную ў сырых, апусташэлых мурах. Дзяўчына распранулася з паліто і прысела на ложак.

— Хвіліну пачытаю, а потым — спа-а-аць, — раскошна пазяхнула, раскрыжавала рукі, пацягнулася, аж напяліся, падаліся наперад маленькія ўзгоркі пад швэдрыкам. — Я, ведаеце, не засну, калі не прачытаю прынамсі дзве старонкі. — Дастала з чамаданчыка нейкую кніжку, палажыла яе побач сябе, хуценька, быццам бы сарамліва, так, што на вокладцы паспелася толькі прыкмеціць якісьці твар з доўгім, вывешаным языком.

— Чытайце, на здароўе, — сказаў я на развітанне і пайшоў.

На вуліцы церушыў дождж. Вецер, забягаючы з паўднёвага ўсходу штурхануў у плечы. Нецярплівa, бесцырымонна. І вецер той, і самота кастрычніцкага адвячорка, і мігценне неонавай рэкламы, перамешанае з араматам кітайскай кухні накіравалі мяне да пана Зэнака. Наогул стараюся абмінаць такія экзатычныя раскошы, лічу іх непатрэбнай выдумкай ды стратай часу, аднак у гэты кастрычніцкі, сумны вечар атрымалася іначай. Сядзеў я ў беларускай частцы кітайскага рэстарана, папіваў арыентальныя вустрыцы польскім півам, а соннасць — дашчэнту тутэйшая, сачылася з ліхтароў. У галаве таўклася дзіўная думка, што я забыў сказаць нешта важнае дзяўчыне. І думка тая набліжалася, падкрадвалася да высокіх дзвярэй свядомасці, здавалася — яшчэ крок, а пераступіць нябачныя парогі і аб'явіцца зразумелым зместам. А дзіўная сіла затрымоўвала яе, загортвала ў чорнае палатно, адкідала назад, у бязмежныя прасторы забыцця. Перамагаючы соннасць я павалокся на другі паверх. У шчыліне між дзвярыма і падлогай жаўцела святло. Значыць — не спіць яшчэ, чытае — падумалася і адразу зрабілася неяк рэзвей, весялей. Ідучы насустрач жоўтай шчыліне, мая рука застукала ў дзверы, і калі ніхто не адказаў, націснула клямку. Дзверы падаліся. Дзяўчына — напалову седзячы, напалову лежачы — вачыма круглымі як пяцізлатовыя манеты ўглядалася ў дзверы. Недачытаная кніжка выслізнулася са скамянелых рук і з'ехаўшы па коўдры шляпнула на падлогу.

— Ввв-ы мм-му-ззейнік, — ні то спыталі, ні то сканстатавалі пабялелыя вусны.

— У нейкім сэнсе — так, — адказала мая соннасць.

— Вы прыйшлі каб мяне... каб мяне... каб... — Шукала адпаведнае слова, але такое слова не прыходзіла ў яе галаву. Скурчылася, учапілася за мяжу святла і цяню, як блудная, разгубленая ластаўка, калі з-за яе вясёлай неасцярожнасці трапіць у незнаёмую клетку. Натапырыўшы пёркі сачыла за кожным маім жэстам. — Не падходзьце, — працягнула далоні, стараючыся затрымаць мяне на парозе. Не было ў гэтым ніякай цяжкасці. Я і не думаў набліжацца да яе, а ўсе сілы, фізічныя і інтэлектуальныя, аддаваў адной справе: успомніць прычыну, якая прывяла мяне ў гэтае месца. — Гаворачы, — няма сэнсу змагацца супроць музейніка. Можа і няма. А я і так буду змагацца. Буду бараніцца. Жывую мяне не возьмеце! Я буду крычаць. Я ўжо крычу! Ратунку-ууу!

Пранізлівы крык пакаціўся калідорамі і паўтараючыся глухім рэхам слабеў, патухаў, аж дашчэнтна пабіты бетоннымі кулакамі, прысеў у цёмных закавулках. Закрычала яшчэ раз, і яшчэ, а рэзультат атрымоўваўся такі як і раней: голас заглыбляўся ў калідоры, у сцены, у морак, і знікаў не знаходзячы ні падтрымкі, ні водгаласу. Дзяўчына забілася глыбей пад коўдру, так, што глядзелі цяпер на мяне адно вялізныя, знерухомелыя вочы. Яе настрой раптоўна змяніўся. З беспардоннай, амаль адчайнай ваяўнічасці асталася адно пакорлівая, слухмяная абыякавасць. А можа здагадалася, што ўсякі крык на дапамогу і так задушаць, сцішаць тоўстыя абдымкі муроў? Непазбежнасць, няўхільнасць лёсу звалілася на яе з усіх бакоў. Цела напаўнялася цяжкім свінцом слухмянасці і толькі вочы стараліся злавіць тую хвіліну, калі прадбачанае ўсім жанчынам пачынае ператварацца ў відавочны факт.

— Калі ўжо будзе, што мае быць... Але запамятайце: я была супроць. А кніжку, калі ласка, дайце сюды. Схаваю пад падушку. Брыдка ўсё ж, каб валялася на падлозе.

Я ступіў крок наперад, падняў з падлогі тое, што прасіла дзяўчына. Дама... Дамаві... Сам чорт не разбярэцца, што цяпер пішуць маладыя. Вадалейства, — падумаў і ў гэты момант успомнілася ўсё тое, што я раней забыў сказаць. Раптоўнае асвятленне зняло з маёй душы дзіўны, няназваны цяжар. Той цяжар, які не дазваляў мне ні вярнуцца дамоў, ні пасядзець у пана Зэнака. Цяжар, які прывёў мяне сюды, на другі паверх, у пакойчык незнаёмкі.

— Калі будзеце карыстацца туалетам, не забудзьце закруціць кран. Наш старшыня заўжды аб гэтым напамінае. А то, ведаеце, усяк бывае з маладымі. А цяпер чытайце на здароўе, — я падаў дзяўчыне кніжку і сышоў.

**Міхась АНДРАСЮК**

# Настаўнікі года

Конкурс на найлепшага настаўніка 1999 года, арганізаваны другі раз штодзённай „Gazeta Wyborcza" выйграў **Славамір Пюркоўскі**, настаўнік гісторыі ІІ Агульнаадукацыйнага ліцэя ў Беластоку, на якога прагаласавала 2 425 асоб. Лаўрэат узнагароджаны 11-дзённай паездкай у Італіі з магчымасцю аўдыенцыі ў рымскага папы.

Плебісцыт трываў два месяцы. За гэты час рэдакцыя атрымала 9 711 талонаў з назначэннем 104 кандыдатаў. Цікава, што 70% вылучаных настаўнікаў складалі жанчыны, аднак самую вялікую колькасць галасоў набралі мужчыны. Найбольшую актыўнасць у галасаванні выявілі жыхары Беластока. Яшчэ ў апошні дзень конкурсу ў рэдакцыю прыйшло чатыры тысячы галасоў. Сярод вылучаных лаўрэатаў (на 104 асобы) 50 — настаўнікі беластоцкіх школ, 7 кандыдатаў назначылі жыхары Сувалкаў, 5 — Ломжы. Затым ішлі такія мясцовасці, як Аўгустова, Граева, Гарадок, Баршчэва. Шкада, што ў конкурсе не прысутнічалі настаўнікі беларускай мовы. Хапіла б адно назначэнне вучня, каб апынуцца сярод кампаніі лаўрэатаў ды атрымаць грамату „Nauczyciel roku 1999".

Сярод узнагароджаных настаўнікаў была **Альжбета Навацкая** з бельскай „тройкі", **Уршуля Бэднаж** з ПШ н-р 6 у Гайнаўцы, **Ванда Гаркоўская** з ПШ у Гарадку, **Ірэна Матысюк** з ПШ у Верабах.

Вылучэнні атрымалі таксама валанцёры Гарадоцкага асяродка грамадскай дапамогі: **Марта Герасімчук, Дарота Горбач, Кацярына Куцькоўская**. Кася Куцькоўская, наймалодшая кандыдатка, сама здзівілася, калі пабачыла сваё прозвішча ў прэсе. Яна — вучаніца трэцяга класа Агульнаадукацыйнага ліцэя ў Міхалове.

— Працую з дзецьмі з г.зв. паталагічных сем'яў. Разам з сяброўкамі ладзім гэтым дзеткам мастацкія, спартыўныя і турыстычныя заняткі, — сказала Кася, якая заангажаваная таксама ў дзейнасць гарадоцкіх скаўтаў. — Маім узорам валанцёра з'яўляецца мая цёця, Ірэна Матысюк з Гарадка.

У будучыні Кася хоча штудзіраваць рускую філалогію. Варта адзначыць, што Кася і яе цёця Ірэна Матысюк удзельнічалі ў ІІІ Сустрэчах „Зоркі", якія ў пачатку 1996 года праходзілі ў Бандарах.

**Ганна КАНДРАЦЮК**

IV Агульнапольскі конкурс беларускай паэзіі і прозы

# Яны не глухія на словы

IV Агульнапольскі конкурс беларускай паэзіі і прозы, аб'яўлены рэдакцыяй „Нівы" і Беларускім саюзам Рэспублікі Польшча набліжаецца да завяршэння. Аднак у гэтым годзе па фінансавых прычынах фінал конкурсу адбудзецца восенню.

Сёлета на конкурс паступіла 41 праца. З таго ліку 7 прац даслалі вучні пачатковых школ, 16 — моладзь сярэдніх школ і 18 — дарослыя аматары прыгожага пісьменства.

25 чэрвеня г.г. дасланыя працы ацаніла міжнародная журы, якое састаўлялі: Надзея Артымовіч, Ежы Плютовіч, Сакрат Яновіч і Адам Глёбус з Мінска

— Яны не глухія на словы, не дальтаністы на ягоны колер, не ідыёты сэнсу, — сказаў пра ўдзельнікаў конкурсу Сакрат Яновіч. — Дастаткова ашчадныя ў агульным выразе. З інстынктам падтэксту. І, відаць, начытаныя. Без фальклорнай раманнасці.

У І групе — моладзь пачатковых школ — журы І месца вырашыла прысвоіць **Жанэце Ролі** з Бельска-Падляшскага („Балотнік"), ІІ — **Анэце Галімскай** з Ягаднік („Соня"), а ІІІ — **Мажэне Жменька** з Бельска-Падляшскага („ММ").

Ацэньваючы творы гэтай групы ўдзельнікаў конкурсу Сакрат Яновіч напісаў: «Наогул, з культурай напісаныя тэксты. Аднак паэзіі ў іх мала. Пераважна надуманыя, занадта „тэхнічныя": умець пісаць вершы зусім не значыць быць паэтам. Бачу іскрынкі таленту ў „Балотніка" (на жаль мае ён праблемы з паланізмамі, недарэчнымі, бо не функцыянальнымі, г.зн. цалкам выпадковымі) і „ММ"».

У ІІ групе — моладзь сярэдніх школ — журы першае месца прысвоіла **Альжбеце Негярэвіч** з Гайнаўкі („Е-еn"). Вылучэнне ў гэтай групе атрымалі яшчэ дзве асобы: **Юрка Буйнюк** з Малінnік („Верасок") і **Юстына Каралько** з Бельска-Падляшскага („Якар").

Сакрат Яновіч заўважыў, што аўтары гэтай групы твораў «пішуць папольску і перакладаюць. Будова фразы вельмі польская, фактычна напісана папольску беларускімі словамі і літарамі. Гэта катастрофа!».

Сярод дарослых (ІІІ група) увагу журы прыцягнулі творы **Рэнаты Більмін** з Беластока („Сіняя"), якой прысвоенае было І месца і **Івоны Марціновіч** з Краснага Сяла („Іва") — ІІ месца. Вылучэнні атрымалі яшчэ **Анеля Місяюк** з Галадоў („Венера") і **Зінаіда Лукша-Кавалевіч** з Беластока („Спарыш"). Астатняе вылучэнне аўтарка атрымала за прозу.

«У „Парнасік" тут процьма тэкстаў, — пракаментаваў гэтую групу твораў Сакрат Яновіч. — А ў літаратуру рэкамендую *Не ўмею кахаць людзей* „Венеры", радкоўі „Сіняй", і зусім прыстойную прозу *Кароны сведак* „Спарыша" (ён варты нават большай узнагароды, хаця б таму, што прозы ў нас амаль няма, усё вершы з „кніжным" каханнем). „Спарыш" здзівіў мяне спеласцю фразы!»

Сярод аўтараў дасланых прац упершыню ў конкурсе прынялі ўдзел 13 асоб. Найбольш дэбютантаў было сярод ліцэістаў — 7 чалавек і іх малодшых калег з пачатковых школ — 5 асоб. У групе дарослых апынуўся толькі адзін дэбютант. Журы адзначыла, што ў ліку найлепшых апынулася трое дэбютантаў: Анэта Галімская, Мажэна Жменька і Альжбета Негярэвіч.

Не ўсе ўдзельнікі былі заўважаны журы і ў конкурсах гэта нармальная з'ява. Аднак арганізатары высока цэняць усіх, хто адважыўся прад'явіць свае літаратурныя творы на суд вядомых літаратараў. «Яны, — сказаў Сакрат Яновіч, — тыя кусцікі, без якіх не вырасце высокае дрэва». Дрэва высокай літаратуры.

Арганізатары будуць намагацца выдаць да восені паэтычны зборнік з лепшымі творамі ўдзельнікаў конкурсу.

**Віталь ЛУБА**

# Зорка
## СТАРОНКА ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ

Францішак КАБРЫНЬЧУК

### *Шчасце*

На чатырохлістнай канюшыне
шчасцейка жыве малое,
слязой плача расы серабрыстай,
што яно яшчэ зусім чужое.

Лётае над лугам чмель касматы,
заглядае кветачкам у твары.
Ён жа знойдзе шчасцейка малое
і напэўна табе дасць у дары.

*З польскай мовы пераклаў*
*Віктар ШВЕД*



*Будучыя гімназісты атрымалі кветкі ад сямікласнікаў.*

# *Урэшце канікулы*

Апошні дзень школьнага навучальнага года ў Новым Корніне. На калідоры гул як у вуллі. За хвіліну ўрачыстае заканчэнне, узнагароды, пасведчанні. У канцылярыі апошнія падрыхтоўкі. Заходзіць таксама матуля з букетам палявых кветак. Ад шчырага-шчырага сэрца віншуе настаўніц кабета з Трывежы. Нечаканы букет палявых кветак узбуджае радасць. Кветкі — неадлучны сімвал заканчэння школьнага года. Звініць званок! У спартыўнай зале чакаюць ужо ўсе вучні і многія бацькі. У руках дзетак кветкі. Святочнасць дня адзначае таксама незвычайная элегантнасць.

— Маю для вас добрую вестку, — кажа дырэктарка школы **Іаанна Алексяюк**. — Усе вучні нашай школы перайшлі ў наступны клас.

Спадарыня Алексяюк уручае кніжныя ўзнагароды. Найперш дзеткам малодшых класаў, пасля іх падыходзяць выдатнікі са старэйшых класаў. Вучаніцы IV класа: **Юстына Гацута**, **Івона Крук**, **Кася Пліс** і **Магда Шварц** радасна ўсхваляваныя. Яны атрымалі пасведчанні з бела-чырвонымі палоскамі. У пятым класе зноў найлепшыя былі хлопцы. Пасведчанні з вылучэннем (з бела-чырвонай палоскай) атрымалі: **Дарак Ляўчук** і **Павел Лаўрыновіч**. У VII класе найлепшыя вынікі ў навуцы дасягнулі: **Эля Здраеўская** і **Аня Крук**. Кніжныя ўзнагароды і пасведчанні з вылучэннем атрымалі таксама будучыя гімназісты: **Рэната Харытанюк**, **Ева Гіншт**, **Іаанна Галёнка** і **Паўліна Швед**, а таксама вучань VIII класа **Андрэй Крук**. Андрэй Крук як адзіны са школы збіраецца ў Гайнаўскі беларускі ліцэй. Яшчэ дзве асобы хочуць вучыцца ў тэхнікумах. Апошнія выбралі прафесійныя школы. Агулам восьмы клас закончыла 10 асоб. Адыдуць таксама шасцікласнікі. Больш шасцёх з іх (усіх 13 асоб) пойдзе ў гімназію ў Дубіны, дзве асобы папоўняць рады гімназістаў Гайнаўкі і Арэшкава.

Школа ў Новым Корніне далей будзе працаваць поўным ходам. У новым навучальным годзе прадбачваецца (разам з нулявым класам) 117 навучэнцаў. Апрача мясцовых, тут школьнікі з Васількова, Катоўкі, Трывежы, Чыжык, Новага Беразова, Дубіч-Асочных, Хітрай, Барка і Ягаднік.

— Я хацела б пахваліць вучняў чацвёртага (зараз пятага) класа, — кажа **Ніна Куптэль**, настаўніца беларускай мовы. — Амаль усе вучні гэтага класа падпісаліся на „Ніву”. **Марцін Анішчук**, вучань VIII класа ўдзельнічаў у Сустрэчах „Зоркі”. Яго апавяданне „Добрае прыносіць радасць” апынулася сярод вылучаных артыкулаў другога квартала за 1999 год у „Зорцы”.

Вялікія воплескі падарыла публіка **Паўліне Швед**, лаўрэатцы арфаграфічнага конкурсу. Былі таксама ўзнагароды для найлепшых чытачоў: **Бэаты Алексяюк** і **Касі Пліс**. Згаданая ўжо раней **Эля Здраеўская** вылучылася дапамогай у школьнай бібліятэцы, а **Марцін Анішчук**, як працаўнік школьнай крамы. Вялізная колькасць узнагарод прыпала дзецям, якія ашчаджалі ў школьнай касе „SKO”. **Паўлік Ляўчук**, вучань IV класа заашчадзіў больш 600 зл. Апякунка школьнай касы **Ніна Леанчук** уручыла ўзнагароды-прызы 22 школьнікам.

— Чым малодшыя дзеці, тым больш ашчадныя, — падвяла яна вынікі працы гуртка.

Далей пайшлі мастацкія выступленні. У песнях і вершах школьнікі праслаўлялі лета, канікулы, прыроду.

Завяршыўся школьны год — поўны хваляванняў, абавязкаў і працы. Адчувалася палёгку і подых сонечных канікулаў.

ЗОРКА

*Фота Ганны КАНДРАЦЮК*



*Дырэктар Іаанна Алексяюк уручае грамату нашаму карэспандэнту Марціну Анішчуку.*



*Былі віншаванні і пацалункі з настаўнікамі.*



*Дашкольнікі з Новага Корніна перайшлі ў школу.* Фота Ганны КАНДРАЦЮК

# Успамін з Варшавы

У палове мая мой клас паехаў на экскурсію ў Варшаву. У дарозе нам спадарожнічаў дождж. Але ў аўтобусе было весела. Дзеці спявалі песні, размаўлялі, смяяліся.

У Варшаве мы пабачылі стары горад, каралеўскі замак, аэрапорт, Палац культуры і навукі, дзе мы пабывалі на 33 паверсе. З вышыні мы бачылі незабыўную панараму сталіцы Польшчы. Ездзілі на метро і рухомымі сходамі. Нарэшце завіталі ў Лазенкі. Экскурсія мне падабалася.

**Павал ВЯРШКО, кл. IV „д"**



*Мастацкія выступленні — на сцэне першакласнікі з Новага Корніна.*
Фота Ганны КАНДРАЦЮК

# Музыка

Жыў на свеце музыка. Многа хадзіў ён па зямлі ды ўсё граў на скрыпцы. І плакала ў яго руках скрыпка, і такая была ў яго гранні нуда, што аж за сэрца хапала...

Плача скрыпка, льюць людзі слёзы, а музыка стаіць і выводзіць яшчэ жаласней, яшчэ нудней. І балела сэрца, і падступалі к вачам слёзы: так і ўдарыўся б грудзьмі аб зямлю ды ўсё слухаў бы музыку, усё плакаў бы па сваёй долі...

А бывала яшчэ так, што музыка быццам вырастаў у вачах людзей, і тады граў моцна, гучна: гудзяць струны, звоніць рымка, бас, як гром, гудзіць і грозна будзіць ад сну і завець ён народ. І людзі падымалі апушчаныя галовы, і гневам вялікім блішчалі іх вочы.

Тады бляднелі і трэсліся як у ліхаманцы і хаваліся ад страху, як тыя гадзюкі, усе крыўдзіцелі народа. Многа іх хацела купіць у музыкі скрыпку яго, але ён не прадаў яе нікому. І хадзіў ён далей між бедным людам і граннем сваім будзіў ад цяжкага сну.

Але прайшоў час, і музыкі не стала: злыя і моцныя людзі кінулі яго ў турму, і там скончылася жыццё яго... І тыя, што загубілі музыку, узялі яго скрыпку і пачалі самі граць на ёй народу.

Толькі іхняе гранне нічога людзям не сказала. „Добра граеце, — гаварылі ім, — ды ўсё не тое". І ніхто не мог растлумачыць, чаму ад грання музыкі так моцна білася сэрца бедакоў. Ніхто не ведаў, што музыка ўсю душу сваю клаў у ігру. Душа яго знала ўсё тое гора, што бачыў ён па людзях; гэта гора грала на скрыпцы, гэта яно вадзіла смыком па струнах; і ніводзін сыты не мог так граць, як грала народнае гора.

Прайшло шмат гадоў з таго часу. Скрыпка разбілася. Але памяць аб музыку не згінула з ім разам. І спаміж таго народу, якому ён калісь іграў, выйдуць дзесяткі новых музыкаў і граннем сваім будуць будзіць людзей к свету, праўдзе, брацтву і свабодзе...

**Максім БАГДАНОВІЧ**

# Успамінаюцца мне дні

*(успаміны Хведара Ільяшэвіча пра скаўтаў Віленскай беларускай гімназіі)*

**Частка 3**

— Чаму яны ня хочуць узяць мяне — думаў я з жалем. Я ж нікаму нічога ні сказаў бы, а каб трэба было што зрабіць, я зрабіў бы гэта лепш як дарослы. І я доўга плакаў, забіўшыся недзе ў куток двара. Але я сам прыдумаў, што зрабіць. Аднойчы за сцэнай у Гімназыі я сабраў чалавек пяць сяброў-аднакласнікаў. Я гаварыў шэптам, азіраючыся ці хто ня слухае нас, што мы павінны быць сапраўднымі беларусамі, як дарослыя, а ня так сабе. Мы пакляліся да смерці быць беларусамі і за Беларусь памерці. Каб клятва была моцнай, кожны з нас пракалоў палец іголкай і крывёй паставіў знак на паперы. Аб гэтай клятве нехта з нас вычытаў у нейкай кнізе. Таму і мы зрабілі таксама. Паперу перахоўваў я пад страхой склядзіка на нашым панадворку. Але ўсё ж я адчуваў, што гэта ўсё ня так як у дарослых.

Аднойчы ў нашую клясу прышоў наш настаўнік „Навукі аб рэчах" (фізыкі) С. Рак-Міхайлоўскі з адным вучнем старэйшае клясы. Яны расказалі нам аб скаўтынгу і аб тым, што ў нашай Гімназыі таксама арганізуецца беларускі скаўтынг. Мыператварыліся ў слух і лавілі кожнае слоўца, як найсвяцейшы закон для нас. Цяпер пачыналася нашае жыццё! Мы будзем вучыцца быць разведчыкамі, знаходзіць па зорках і знаках дарогу, памагаць раненым, вучыцца сыгналізацыі, знакаў Morse, каб быць карыснымі Бацькаўшчыне Беларусі!.. І калі настаўнік спытаўся ці хочам мы належыць да скаўтынгу, усе як у гарматы, дружна адказалі: — Так!

***(працяг будзе)***

*(стыль і арфаграфія аўтара захаваны)*

# Аб чым пяе крынічка

І хмарным вечарам, і ўранні —
Заўжды, як срэбра, плынь мая.
Хто замаркоціцца, прыстане, —
З глытком вады
дам сілу я.

Журчу, жвіркам шуршу, вірую —
Такі мой лёс, такі мой плёс.
Дзе чысціню сваю бяру я?
У рос,
у зорак,
у нябёс.

Здалёк чуваць мой спеў вясёлы,
Ён звонкі ў спёку і ў мароз.
Дзе я бяру свой спеў, свой голас?
У траў,
у птушак,
у бяроз.

З глыбінь да сонца шлях прабіла,
Каб рады людзі мне былі.
Дзе я ўзяла такую сілу?
У роднай матухны зямлі.

**Мікола ЧАРНЯЎСКІ**

# Мая бабуля

Мая бабуля жыве ў вёсцы Райск. Яе гаспадарка невялікая, але вельмі прыгожая. Сяліба ляжыць на невялікім пагорку, непадалёк сасновага лесу і палёў.

На бабуліным полі растуць truskalki. На панадворку знаходзіцца невялікая драўляная, крыху падмураваная хата. Здалёк вылучаюцца ў ёй белыя вокны на фоне цёмных сцен. Каля хаты садок. Непадалёк хаты знаходзіцца невялікае гумно, а каля яго два стагі сена і хлявы. Між імі пабудаваная жытніца. На панадворку знаходзіцца вечна адчыненая брама. У бабулінай хаце крыху старадаўна. На сцяне вісіць драўляны гадзіннік, які іграе песні. Люблю ездзіць да сваёй бабулі, таму што мне падабаюцца хата і панадворак, а найбольш таму, што люблю сваю бабулю.

**Міхась МАТЭНЬКА, кл. III „ц"**
**ПШ н-р 3 у Бельску-Падляшскім**

# Польска-беларуская крыжаванка № 28

Запоўніце клеткі беларускімі словамі.

| | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 📖 | Pokój | ▶ | | | Ramiona | ▼ | Klin / Jaskrawy | Zabawka |
| Ściana | ▼ | Konsument | Gama | Plac ▶ | ▼ | | ▼ | ▼ |
| ▶ | | ▼ | ▼ | Lira | ▶ | | | |
| Flaga / Jedzenie ▶ | | | | Jęk | ▶ | | | |
| ▶ | | | | 📖 | | 📖 | | |
| Krasnal / Akacja ▶ | | | | | | | 📖 | |

**Адказ на крыжаванку н-р 24:** Грос, грунт, груз, адчай. Марк, града, груд, грузчык, стойка.

**Узнагароды, запісныя кніжкі, выйгралі: Івона Лісавец** з Гарадка і **Наталля Сцепанюк** з Беластока.

**...Не адрываецца ад беларускай нацыянальнай культуры, уключаць беларускую мову ў царкоўную дзейнасць.**

# IV З'езд Брацтва св.св. Кірылы і Мяфодзія

У Цэнтры праваслаўнай культуры ў Беластоку 19 чэрвеня 1999 года адбыўся IV З'езд дэлегатаў Брацтва св.св. Кірылы і Мяфодзія.

Брацтва св.св. Кірылы і Мяфодзія як аб'яднанне было зарэгістравана 26 студзеня 1989 года на падставе закона аб грамадскіх аб'яднаннях.

Якія былі галоўныя мэты гэтага аб'яднання? Перш за ўсё яднаць людзей адной веры. Папулярызаваць праваслаўе, гісторыю і культуру праваслаўя. Дбаць пра помнікі праваслаўнай культуры, дапамагаць у рамонце цэркваў. Павышаць узровень праваслаўнай свядомасці.

Вось такая была матывацыя стварэння брацтва, канстатуе д-р **Ян Зенюк**, ад'юнкт Кафедры педагогікі Хрысціянскай тэалагічнай акадэміі, які, будучы дзве кадэнцыі намеснікам старшыні Галоўнага праўлення гэтага брацтва, апошнія паўтара года, калі захварэў праф. Міхаіл Малафееў, выконваў функцыю старшыні.

Першы з'езд агульнапольскага Праваслаўнага брацтва св.св. Кірылы і Мяфодзія з сядзібай у Беластоку адбыўся 24 чэрвеня 1989 года, якраз на свята Кірылы і Мяфодзія. Сёлетні з'езд быў праведзены на 10-годдзе і стаў падсумаваннем дзейнасці брацтва за гэтыя гады.

У Беластоку дзейнічаюць таксама тры епархіяльныя брацтвы, якія знаходзяцца ў ведамстве епіскапа. Брацтва Трох Свяціцеляў гуртуе маладых людзей ва ўзросце прыблізна 24-40 гадоў. Яно найбольш займаецца папулярызацыяй ведаў пра праваслаўе ў розных прыходах. Брацтва св. Мікалая арганізуе перш за ўсё харытатыўную дзейнасць, паломніцтвы, дапамогу праваслаўным людзям у краіне і за граніцай. Дбае пра тых, хто апынуўся ў цяжкіх жыццёвых умовах. Трэцяе брацтва — гэта Маладзёжнае брацтва, яно наладжвае сустрэчы, лагеры, паломніцтвы ў Яблачын і на святую Гару Грабарку, выезды ў Супрасль, у Звяркі, дзе нарадзіўся іх заступнік святы Гаўрыіл Заблудаўскі і дзе сёння будуецца манастыр яго імя.

Таксама ў Беластоку знаходзіцца сядзіба агульнапольскага Маладзёжнага брацтва, створанага саборам епіскапаў.

Брацтва св.св. Кірылы і Мяфодзія перш за ўсё вядзе асветную і навуковую дзейнасць. Штогод праводзяцца навуковыя канферэнцыі. Што датычыцца апошніх гадоў, дык у 1997 годзе адбылася канферэнцыя „Пётр Магіла і праваслаўная культура яго эпохі", на якой было прадстаўлена каля дзесяці дакладаў. У 1998 годзе навуковай канферэнцыяй пачалі святкаванне 500-годдзя Благавешчанскага манастыра ў Супраслі. Заканчэнне святкавання прадбачваецца ў 2000 годзе.

А сёлета, у днях 4-5 чэрвеня, была праведзена канферэнцыя „Праваслаўная Царква ў дзеях Рэчы Паспалітай". Першы дзень канферэнцыя адбывалася ў Беластоку, а на другі дзень — у Супраслі.

**Д-р Ян Зенюк:** На ўрачыстай сесіі Гарадской рады з нагоды 250-годдзя атрымання гарадскіх правоў горадам Беластокам д-р Юзэф Марошак выступіў з дакладам аб ролі Рымакаталіцкага Касцёла ў развіцці горада. Ён сказаў, што праваслаўе ў Беластоку існуе ўсяго 160 гадоў, ды і то гэта былі палякі, нібы сілком загнаныя царом у праваслаўе.

І тады менавіта Брацтва вырашыла, як бы даючы адпор гэтаму дакладчыку і яму падобным, супольна з Кафедрай праваслаўнай тэалогіі Беластоцкага універсітэта наладзіць канферэнцыю аб ролі Праваслаўнай Царквы ў дзеях Рэчы Паспалітай.

Д-р Ян Зенюк стаў яе галоўным арганізатарам. На працягу двух дзён было зачытана шмат цікавых дакладаў, сярод якіх вылучаліся: „Сімволіка Крыжа" (мітрапаліт Сава), „Праваслаўе ў сучасным свеце" (а. Генрых Папроцкі), „Праваслаўе — фактар, інтэгруючы народы Усходняй Еўропы" (праф. Уладзімір Паўлючук), „Праваслаўная Царква ў дзеях Рэчы Паспалітай" (праф. Антон Міравовіч), „Царкоўныя брацтвы як фактар, інтэгруючы праваслаўных" (праф. Юры Нікітаровіч), „Благавешчанскі манастыр у Супраслі" (епіскап Іакаў), „Цудоўныя іконы Праваслаўнай Царквы на Беласточчыне" (а. Рыгор Сасна), „Культ св. Гаўрыла Заблудаўскага" (дыякан Аляксей Курыловіч), „Навейшыя дзеі Праваслаўнай Царквы ў Польшчы" (а. Дарафей Савіцкі), „Юрыдычны статус Праваслаўнай Царквы ў Польшчы" (мгр Яраслаў Матвеюк) і іншыя.

Мы арганізуем сустрэчы і даклады, якія адбываюцца ў Цэнтры праваслаўнай культуры і ў розных прыходах, падкрэсліў д-р Ян Зенюк. Галоўным дасягненнем апошніх гадоў стала гэтак званая „wszechnica" праваслаўнай культуры. Даклады адбываюцца адзін раз у месяц. Выступалі з дакладамі мітрапаліт Сава („Актуальныя праблемы Праваслаўнай Царквы"), епіскап Іакаў („Эклезіялагічныя элементы — параўнанне Праваслаўнай Царквы з Рымакаталіцкім Касцёлам"), праф. Уладзімір Паўлючук („Праваслаўе як быт культуры), а. Дарафей Савіцкі („Праблемы веры") і іншыя.

Даклады выклікалі такое зацікаўленне, што дакладчыкам не хапала месца ў Цэнтры праваслаўнай культуры. „Tłumy!" — напісала „Gazeta Wyborcza".

Д-р Ян Зенюк, які гэта цыклічнае мерапрыемства вёў ад пачатку, лічыць, што трэба будзе надалей — супольна з „базай", гэта значыць, з Кафедрай праваслаўнай тэалогіі — працягваць гэты цыкл дакладаў.



*На святую Гару Грабарку!*

У гэтым годзе ўпершыню Брацтва св.св. Кірылы і Мяфодзія арганізавала 16-17 студзеня сустрэчу прадстаўнікоў праваслаўных брацтваў, якія дзейнічаюць пры епархіях Праваслаўнай Царквы ў Польшчы. Прыехалі госці з іншых гарадоў: Любліна, Шчэціна, Варшавы, Новага Сонча, Гданьска, Ольштына.

Мэтай гэтай сустрэчы было пазнаёміцца, абмяняцца вопытам у працы і прыняць напрамкі далейшага супрацоўніцтва. Удзельнікі нарады наведалі Супрасльскі манастыр, Школу іканапісу ў Бельску (адзіную ў Польшчы), а таксама цэрквы, якія будуюцца ў Беластоку, Гайнаўцы і Бельску. Людзі ў цэрквах ужо не месцяцца! — канстатуе д-р Ян Зенюк.

У рамках супрацоўніцтва з іншымі брацтвамі, прадаўжае ён, мы ўключыліся ў арганізацыю паломніцтваў і дапамогі патрабуючым. У апошнія гады мы дапамагалі пацярпеўшым ад паводкі ў Польшчы, Беларусі і Украіне.

Мы аказваем таксама дапамогу цэрквам, якія будуюцца, 15 000 новых злотых унеслі на будову Цэнтра праваслаўнай культуры. Вядома, гэта нам удаецца зрабіць дзякуючы ахвярадаўцам, але не толькі. Мы вядзем таксама гаспадарчую дзейнасць: кіёск на праваслаўных могілках на Выгодзе, таксама мы выдалі кніжку мітрапаліта Савы „Prawosławne pojmowanie małżeństwa", якую даем дарма цэрквам, а яны яе прадаюць і грошы прызначаюць на будову.

Важнае з даклада д-ра Яна Зенюка, прачытанага на IV З'ездзе Брацтва св.св. Кірылы і Мяфодзія: **Дбаць пра тое, каб не адрывацца ад беларускай нацыянальнай культуры, уключаць беларускую мову ў царкоўную дзейнасць.**

На з'ездзе былі прадстаўнікі Брацтва з Варшавы, Гданьска, Гайнаўкі, Бельска, Сямятыч і іншых гарадоў. У дыскусіі яны шмат гаварылі аб неабходнасці дапамагчы навучанню праваслаўнай рэлігіі ў школах. Краналіся справы помачы пенсіянерам, адзінокім людзям — усім патрабуючым.

Нэля Шчука з гуртка Брацтва пры Свята-Троіцкім саборы расказвала пра іх штодзённую працу: пра навучанне рэлігіі ў школе, пра зборы дараў для братоў за граніцай, пра Вігіліі для самотных і канцэрты для іх жа. Цяжка з грашыма, але яны ў Дні царкоўнай музыкі вядуць буфет і даход прызначаюць на сваю дзейнасць. Дэлегатка падкрэсліла, што ў іх дзейнасці выяўляюцца таксама беларускія справы.

На з'ездзе гаварылася з болем і пра сербскія справы, а Ян Грыгарук зачытаў нават свой верш на гэту тэму.

Адным словам, закраналіся малыя і вялікія справы, якімі жывуць праваслаўныя.

**На з'езд прыбыў і выступіў перад членамі Брацтва мітрапаліт Сава.**

З'езд выбраў новае Галоўнае праўленне. **Старшынёю стаў прафесар Антон Мірановіч**. Ён сказаў, што Брацтва павінна інтэграваць праваслаўных, пабуджаць вясковае асяроддзе, арганізоўваць паломніцтвы на пераломе тысячагоддзяў, імкнуцца да таго, каб у фінансаву дапамогу Брацтву ўключыліся неправаслаўныя асяроддзі. Але перш за ўсё Брацтва павінна сканцэнтравацца на асветнай дзейнасці ў галіне праваслаўнай культуры, на самаадукацыі, павінна праводзіць навуковыя канферэнцыі і выдаваць публікацыі. А найважнейшае — каб у малітве і дзеянні была еднасць.

**Ада Чачуга**

*Фота Багуслава Скока*

# Святкаванні ў саборы

З нагоды свята Усіх Святых Зямлі Беларускай 20 чэрвеня г.г. у саборы Святой Тройцы ў Гайнаўцы пасля літургіі адслужаны быў малебен, у час якога гайнавяне маліліся да заступнікаў Зямлі Беларускай. Пасля адбылася сустрэча з Антонам Мірановічам, гісторыкам, навуковым працаўніком Універсітэта ў Беластоку і старшынёю Праваслаўнага брацтва св.св. Кірылы і Мяфодзія. Прысутных гайнавян, сярод якіх былі святары з дэканам Гайнаўскай акругі айцом Міхаілам Негярэвічам і бурмістр Гайнаўкі Анатоль Ахрыцюк, віталі старшыня Гайнаўскага аддзела БГКТ Міхал Голуб і намеснік старшыні Праваслаўнага брацтва св.св. Кірылы і Мяфодзія ў Гайнаўцы Нэля Шчука, якія і былі арганізатарамі сустрэчы.

— Знаходзімся мы паміж дзвюма цывілізацыямі і асабліва цяпер павінны мы звяртацца да каранёў нашай духовасці — беларускіх святых, — гаварыў у час святкавання айцец Славамір Хвойка. — Сабор Беларускіх Святых, якога святкаванне ўстаноўлена было ў 1983 годзе і ікона Святых Зямлі Беларускай з'яўляюцца нашымі заступнікамі.

Гісторык Антон Мірановіч пазнаёміў прысутных з жыццём і дзейнасцю беларускіх святых. Найбольш месца адвёў ён святой Еўфрасінні Полацкай і яе рэлігійнай, дабрачыннай і асветніцкай дзейнасці, успомніў пра св. Міну, які заклікаў да еднасці беларускіх земляў, пра св. Дзіянісія — ініцыятара кананізацыі св. Еўфрасінні і св.Міны, сказаў пра св. Сімяона, вядомага прапаведніка праваслаўя. Расказваючы пра Тураў, прыгадаў св. Марціна, які быў ініцыятарам кананізацыі св.св. Барыса і Глеба ды св. Кірылу, прамоўцу і прапаведніка. З ліку смаленскіх святых успамянуты былі, між іншым, св. князь Расціслаў, затворнік св. Аўраам — творца манаскага жыцця ды св. Яфрэм і св. Меркурый. Прамоўца расказаў таксама пра св. Юльяну Альшанскую, св. Сафію Слуцкую, якая будавала цэрквы і мучанікаў: св. Афанасія Брэсцкага, св. Макарыя Пінскага і св. мучаніка дзіцятка Гаўрыла Заблудаўскага, які жыў найбліжэй нас, бо ў Звярках, што каля Заблудава, а яго мошчы пасля вандроўкі па Беларусі і Расіі знаходзяцца зараз у саборы св. Мікалая ў Беластоку.

— З'яўляемся мы наследнікамі духовасці і культуры Беларускіх Святых, якія могуць нам дапамагчы пазбегнуць мадэрнізму і свецкасці ў штодзённым жыцці і за гэта мы абавязаны іх ушаноўваць, — сказаў Антон Мірановіч.

Пасля вячэрні адслужаны быў акафіст св. Гаўрыілу Заблудаўскаму, апекуну моладзі.

**Аляксей Мароз**

# „Ненавіджу дождж і град!”

**На Нямізе снапы сцелюць галавамі, а малоцяць жа стальнымі іх цапамі. На таку жыццё кладзецца неспадзейна, і душу ад цела веюць безнадзейна. Берагі ў крыві Нямігі па калені; не дабро на іх пасеяў сейбіт жменяй. А былі яны гусценька ў процьмах вузкіх...**

**(*Слова аб палку Ігаравым*, пераклад Янкі Купалы).**



*Не раз паганілі святое месца.*

Маланкі білі прама туды і толькі туды. Лілася вада, хоць крок збоч не ўпала ні кроплі. Цяпер наўкол Нямігі ў Мінску чытаеш: „Ненавіджу дождж і град”. Сток гора, болю, нянавісці, брыды, хамства, глупства і злой энергіі праравў запоры. Чорнымі і крывавымі пісягамі запісалася гісторыя Нямігі.

**Цябе згвалтавалі**

Танечка! Хто цябе так пакрыўдзіў, абдзёр?! — залямантавалі бацькі, убачыўшы стаючую на парозе кватэры босую, у закрываўленым некамплектным адзенні, без пярсцёнкаў ды завушніц сваю дачку-вучаніцу. Яна не магла вымавіць слова, урэшце прастагнала:

— Не ведаю, нічога не ведаю. Мяне выцягнулі з кучы трупаў...

Не паверылі, пакуль не пачулі: 30 мая на Нямізе свята піва і песні закончылася трагедыяй.

Жэню, што жыве амаль тут, за Оперным тэатрам, я ведаю здаўна. Юнак ненавідзіць катоў, што ходзяць па вуліцы. Забіў надаўна камянямі цяжарную котку: няхай сядзіць дома, калі людзі выгульваюць сабак. Увогуле, любіць цаляць хлопец камянямі, ды ж не ў людзей! Юнак з яго добры, кажуць людзі. Жэня дагэтуль у шоку: на яго руках памерлі дзяўчаты, якіх ён вывалакаў з падземнага перахода. Жэня быў сярод тых, хто наступаў. Тых, хто задушыў, але паспеў зразумець, што там робіцца ўнізе. Піва выпіў няшмат. А тыя ўсе, хто там падаў, кажуць людзі, цвярозыя былі.

— Яны падалі пластамі — першыя пакаўзнуліся на прыступках. А па іх — абцасамі. Упадзеш, то прапаў. Хто там думае, як падаць! Хавай галаву, сэрца, вантробы, скруціся абаранкам, на левы бок. Але як тут думаць пра тое, калі ўжо табе шыю прабілі абцасамі! Вочы выбілі! А калі ты не выламішся локцямі, каб дыхнуць, а тут хрусцяць косці суседа!

Людзі прыходзяць сюды, стаяць моўчкі тварам да вымытага з крыві месца, доўга ўноч. Мора кветак. Найбольш ландышаў. Пара на гэтыя танныя кветкі якраз, сімвал нявіннасці, чысціні і скромнасці. Як гэтыя дзяўчаткі, якіх больш за сорак легла на ахвяру. Ці сярод тых, што прыходзяць сюды, адчуваючы сваю віну, быццам калі б яны былі побач, то не здарылася б гэта, ёсць тыя,

**хто таптаў —**

той п'яны і дурны статак? Дзесяць хвілін, калі ішоў дождж, якраз толькі над гэтым месцам, працягнулася недзе да паўгадзіны, калі наступныя адурманеныя вазілі туды-сюды ў карэтках скорай дапамогі параненых, калі пачаліся ўжо „пошукі вінаватых”. Найбольш разгубленыя былі ахоўнікі парадку. Іх было тут каля трыццаці, добра вывучаных, як „наводзіць парадак” з дэманстрантамі, але тут мелі перад сабой той народ, у імя якога яны выступаюць. Народ, які навучаны выжываць і ўсё ж цешыцца. „Будзе хлеб — будзе і песня”.

чы, пазабіраў пярсцёнкі, завушніцы тым, каму гэта ўжо непатрэбна? Афіцыйна пералічаны імёны тых, хто загінуў, ды на сценах плачу ёсць і іншыя, ды хтосьці іх усё выцірае...

— Іх больш было, — кажуць людзі на беразе **задушанай Нямігі**, ды

**мы ўсе — ахвяры.**

Стаяць людзі. Успамінаюць знаёмых і незнаёмых. Шкадуюць іх усіх — вучняў (шмат каго чакаў у панядзелак апошні выпускны экзамен), студэнтаў, міліцыянтаў Валодзю Говена і Гену Ракабоня (не на службе былі) і лекара НКУС Алу Мельнікаву, якая прыйшла была з мужам адсвяткаваць гадавіну шлюбу, пару пенсіянераў, якія ішлі насупраць тлуму. Падушаных, паламаных, з вытаптанымі вачыма, з прадзіраўленымі абцасамі шыямі, з выбітымі зубамі... Ці не ва ўсіх уражанне такое, як у цёткі Валі:

— Они за нас погибли. За нас всех.

— Німа памяці ў народзе, вось што. Пакалялі святое месца не раз.

— Гэта ўсё праз тое, што апаганілі святыя дні! Як гэта так можна, у Тройцу такое паганства! Забараніць такое!

Прэзідэнт выцягвае таксама высновы — усяму вінавата „дэмакратыя”, усе гэтыя зборышчы. Хай бы на тым рок-канцэрце выступіў быў які сапраўдны беларускі гурт, які не скрывае свайго нязгоднага з прэзідэнтавым



*Несціханы боль у людзях.*

Бо не маглі ж „нашы людзі” пакрыўдзіць брата — бачыліся асобені, лысыя, у скураных куртках, якія з ровам налятлі на тлум: „Бей, дави, толкай, давай!”, наскоквалі, узяўшыся за рукі, на тых наперадзе. Хто яны? Мо яны і не бачылі, што там унізе робіцца, усё жартам, для смеху, як той някепскі хлопец Жэня, сярэдне адукаваны, як усе, якому смешна калісь было, як проста жывёла курчыцца ад страху ды болю ды здыхае? А хто тыя, што, лагодна мовя-

патрыятызму — вядома, хто быў бы вінаватым. Народ п'е, але тыя, што загінулі, калі хтосьці штосьці і меў у страўніку, то толькі „кефірную дозу”. Гэта ж дзеці былі!

— Яны за нас пагіблі, — паўтарае бабуля, знаёмая дзвюх сясцёр, што тут загінулі. — Каб паказаць нашаму народу, каб праведна жыў. Адумаўся каб.

**Міра Лукша**

*Фота аўтара*

# Новыя псаломшчыкі

Заканчэнне навучальнага года ў Праваслаўнай студыі псаломшчыкаў у Гайнаўцы адбылося 12 чэрвеня г.г. З выкладчыкамі і сябрамі першага курса развіталася чатырох выпускнікоў. У саборы Святой Тройцы адслужаны быў малебен, а дырэктар Студыі, айцец Мікалай Негярэвіч, жадаў выпускнікам поспехаў у працы на прыходах.



*Выпускнікі школы псаломшчыкаў.*

— Не хавайце сваіх дыпломаў, а ідзіце на парафіі, бо калі не будзеце працаваць з хорам, вернецеся да нулявога ўзроўню, — напамінаў айцец Міхаіл.

У мінулым годзе Праваслаўную студыю псаломшчыкаў закончыла адзінаццаць асоб, усе працуюць з парафіяльнымі хорамі.

— Псаломшчыкі вельмі патрэбныя на вясковых парафіях, але таксама ў Гайнаўцы, Бельску-Падляшскім ці Сямятычах не ўва ўсіх цэрквах ёсць каму кіраваць хорамі. На сёлетнім Фестывалі царкоўнай музыкі маглі мы ўбачыць дзіцячы хор „Лісічкі” з Ласінкі, з якім працуе наш выпускнік Ала Кос. У падставовай школе вучыць яна музыкі і вядзе таксама ў царкве ў Ласінцы хор дарослых. Ведаю таксама, што іншая наша вучаніца Мар'я Сцепанюк добра спраўляецца з царкоўным хорам у Чыжах, — кажа дырэктар айцец Міхаіл.

У двухгадовай Студыі будучыя псаломшчыкі вучацца літургіі, парадку багаслужбаў, царкоўнаславянскай мове, знаёмяцца з гісторыяй Царквы, але найважнейшыя музычныя прадметы, якія рыхтуюць кіраваць хорамі. Выкладаюць у школе чатыры свяшчэннікі: дырэктар, айцец Міхаіл Негярэвіч, які заадно і гайнаўскі дэкан, кляшчэлеўскі дэкан а. Мікалай Келбашэўскі, бельскі дэкан а. Георгій Такарэўскі, а. Славамір Хвойка і дзве свецкія асобы: Анна Сідарук і Ірэна Лукашук. Заняткі адбываюцца па пятніцах і суботах.

Запланаваны ўжо таксама набор кандыдатаў на школьны год 1999/2000. З выпускнікамі сярэдніх школ праведзена будзе кваліфікацыйная размова, у час якой правяряцца будуць, у галоўным, музычныя здольнасці кандыдатаў. Усе ахвотныя вучыцца ў Студыі павінны прашэнні і адпаведныя дакументы даслаць да канца жніўня 1999 года на адрас: Państwowe Studium Psalmistów, ul. ks. Dziewiatowskiego 15, 17-200 Hajnówka.

**Аляксей Мароз**

# Белавежскай бібліятэцы — 50

11 чэрвеня г.г. Гмінная публічная бібліятэка (ГПБ) у Белавежы святкавала 50-годдзе сваёй дзейнасці. На працягу тых гадоў пераводзілі яе з аднаго месца ў другое — была нейкі час, між іншым, у будынку мясцовага кіно і ў пажарніцкім дэпо. Пасля 10-гадовага бадзяння ўрэшце яна пасялілася ў Белавежскім асяродку культуры (БАК). Першай бібліятэкаршай была настаўніца геаграфіі — Людміла Гвай. Прадаўжальніцамі яе працы былі ейная дачка Таіса Гвай, Луцыя Міклашэвіч і Гражына Чарноцкая. Людміла Гвай распачала сваю дзейнасць у ліпені 1949 года ад 290 кніжак, а ў канцы таго ж года было ўжо ў бібліятэцы 680 тамоў.

Зараз у ГПБ працуюць Анна Дацкевіч і Людміла Канэцкая. Яны сістэматычна павялічваюць кнігазбор. Цяпер ён налічвае каля 17 тысяч кніг. У мінулым годзе купілі 437 новых кніжак — у асноўным гэта мастацкая літаратура для дарослых і дзяцей. Пазычае кніжкі ў сярэднім 750 чытачоў.

З нагоды юбілею бібліятэкі ў кінатэатры „Зубр” адбылася ўрачыстасць, падчас якой дырэктар БАК Нона Кур'яновіч выступіла з дакладам пра гісторыю ГПБ у Белавежы. Затым з мастацкай праграмай выступілі мясцовыя калектывы „Клякса” і „Дамавікі”, а таксама малюткі з дзетсада. У галерэі БАК адкрылі дзве цікавыя выстаўкі: фатаграфічную „Следам зубра” Крыстыяна Аўчарчака ды разьбы па дрэву „Супакой” Славаміра Смыка з Дабрывады (Кляшчэлеўская гміна). Падсумавалі таксама мастацкі конкурс для дзяцей пад загалоўкам „Мая бібліятэка”. Першае месца заняла Анэта Купень, другое — Павел Васілюк і трэцяе месца — Андрэй Фалькоўскі. Былі і вылучэнні для Кацярыны Бірук і Адрыяна Леўчука.

**(гай)**

# „Шлях да ўзаемнасці”

[1 ☞ праця*г*]

рэчышчы, пазбягаючы палітычных акцэнтаў, хаця, з увагі на тэмы, датычныя сённяшняй сітуацыі, не заўсёды гэта было магчымае. Варта падкрэсліць і тое, што ўдзельнікі Канферэнцыі даведаліся пра шырокую дзейнасць Цэнтра імя Ф. Скарыны і МАБ.

З прывітаннямі выступілі таксама: старшыня Згуртавання беларусаў свету „Бацькаўшчына” Ганна Сурмач, якая навукоўцам з Польшчы падарыла кніжку *Жыватворны сімвал Бацькаўшчыны* ды праф. Вячаслаў Вярэніч — старшыня Польскага навуковага таварыства ў Беларусі, які адзначыў, што развіццё нацыянальных меншасцей спрыяе развіццю беларускай мовы, літаратуры і культуры.

Затым голас быў перададзены дакладчыкам. Як першы выступіў д-р Рышард Радзік (Універсітэт імя М. Кюры-Складоўскай, Люблін). Тэмай ягонага даклада былі беларусы ў вачах палякаў на працягу двух апошніх стагоддзяў. Па словах Р. Радзіка, позірк з Польшчы на Беларусь і беларусаў мяняўся з цягам часу. У прынцыпе, можна вызяліць тры перыяды: час падзелаў Польшчы, міжваенны перыяд і перыяд пасляваенны. У час, калі Польшча страціла незалежнасць, Беларусь уяўлялася як спрэчная тэрыторыя, за якую змагаліся, з аднаго боку — палякі, а з другога — расіяне. У сваю чаргу насельніцтва беларускіх земляў найчасцей называла сябе тутэйшымі. У міжваенны час палякі глядзелі на беларускае насельніцтва як на сялянскае грамадства без нацыянальнай тоеснасці. Беларуская інтэлігенцыя ўспрымалася як варожая ў дачыненні да Польшчы. Польшча бачыла сваю цывілізацыйную місію на ўсходзе, а на беларусаў глядзела як на палякаў, зрусіфікаваных Расіяй. Няшмат змяніўся стэрэатып беларусаў і ў пасляваенны час. Беларусь, звычайна, не заўважалася польскім грамадствам. Польская моладзь, напрыклад, перыяд Вялікага княства Літоўскага асацыюе з Літвою. Прычыніўся да гэтага слабы нацыянальны рух у Беларусі. Беларускасць не заіснавала ў свеце і таму Беларусь успрымаецца як расійская правінцыя — уважае Р. Радзік. Сёння палякі глядзяць на Беларусь як на камуністычную краіну з таталітарнай уладай. Будучыня залежыць ад выбару Беларуссю прарасійскага ці празаходняга накірунку.

У такім жа духу працягваў свае разважанні доктар навук Уладзімір Конан, які выступіў з дакладам пра беларускую нацыянальную ідэю у міжваенны Польшчы ў 1920-1939 гадах. Страта роднай мовы непазбежна вядзе да страты нацыянальнасці. На пачатку XX стагоддзя беларуская дзяржаўнасць толькі заявіла пра сябе. Коратка існавала Беларуская Народная Рэспубліка, а потым Беларусь падпала пад расійскі ўплыў. У. Конан прадставіў постаці розных творцаў, якія ўнеслі найбольшы ўклад у развіццё беларускай мовы, літаратуры і культуры.

Чарговы выступоўца д-р Міхал Саевіч (Універсітэт імя М. Кюры-Складоўскай, Люблін) затрымаў увагу прысутных на тэрыторыі Беластоцкага Краю. Гаварыў пра этнічную, рэлігійную і моўную дыферэнцыяванасць Беласточчыны ў святле навуковых даследаванняў і ў вачах праваслаўных жыхароў гэтага рэгіёна. Адзначыў, што жыхароў Беласточчыны аб'ядноўвае праваслаўе, а не выкарыстоўванне ў штодзённым жыцці беларускай ці ўкраінскай мовы. Тэрмінам беларус часцей паслугоўваецца моладзь, чым старэйшае пакаленне. У сваю чаргу некаторыя даследчыкі да беларусаў залічаюць і ўкраінскамоўных жыхароў Беласточчыны. М. Саевіч звярнуў увагу на працэс фарміравання нацыянальнасці ў даваенны перыяд. Затое яго ідэнтыфікацыя адбылася толькі пасля 1956 г. Беларускасці на Беласточчыне паспрыяла таксама адмоўнае ўспрыняцце тэрміну ўкраінец у сувязі з дзейнасцю Украінскай Паўстанчай Арміі. Сёння часта рускасць трактуецца як антонім польскасці.

Сітуацыю на захадзе Беларусі разглядаў праф. Вячаслаў Рагойша (БДУ, Мінск), які, абапіраючыся на прыклад Ракава, прадставіў заходнебеларускае мястэчка, як асяродак беларуска-польскага сумежжа. Нацыянальны склад гэтых мястэчак змяняўся ў выніку розных катаклізмаў: гістарычных, нацыянальных ці этнічных. На гэтае налажыліся міграцыі. Беларусы-католікі падаліся за палякаў і выехалі ў Польшчу. У заходнебеларускіх мястэчках паявілася расійскае чыноўніцтва і вайскоўцы. Пачаўся, з аднаго боку, працэс русіфікацыі, а з другога — таксама беларусізацыі, таму што да вайны гэтыя мястэчкі былі спаланізаваныя.

Былі таксама даклады, прысвечаныя далёкай мінуўшчыне беларускіх земляў. Пра ўзаемаўплывы прававой культуры Польшчы і Беларусі XVI ст. гаварыла кандыдат навук Галіна Дзербіна (Цэнтр імя Ф. Скарыны). Звярнула яна ўвагу на распрацаванае тагачаснае заканадаўства і кадыфікацыю права ў Вялікім княстве Літоўскім, якое з'яўлялася ўзорам для Польшчы. Андрэй Рамадан (Акадэмія Міністэрства ўнутраных спраў) у дакладзе *Да пытання аб прызначэнні палякаў на дзяржаўныя пасады ў Вялікім княстве Літоўскім у другой палове XVI ст.* звярнуў увагу на тое, што Статут ВКЛ забараняў палякам займаць дзяржаўныя пасады ў ВКЛ і набываць зямлю. Уніфікацыя заканадаўства адбылася толькі ў XVII ст.

У сваю чаргу праф. Базылі Ціханюк (Вышэйшы педагагічны інстытут, Зялёна Гура) прадставіў багацце афіцыйных формаў імён на польска-беларускім памежжы ад XVI да паловы XIX ст.

***(заканчэнне будзе)***

**Ніна БАРШЧЭЎСКАЯ**

# Незвычайнае мерапрыемства



*Ян Каліноўскі ўручае залаты значок Зінаідзе Тарасюк.*

Фота Тамары КЕРДАЛЕВІЧ

У нядзелю, 6 чэрвеня, у чаромхаўскім ГОК адбылося незвычайнае мерапрыемства. Арганізатарамі яго выступілі гмінныя арганізацыі Польскага саюза пенсіянераў і Саюза ветэранаў Рэчы Паспалітай і былых палітычных вязняў. А нагодай для гэтага стала ўручэнне залатых адзнак і медалёў для заслужаных дзеячаў арганізацый і ўручэнне членскіх білетаў для новаўступаючых. Былі запрошаны госці. Ваяводскія ўлады Саюза пенсіянераў узначальваў старшыня Ян Каліноўскі, а мясцовы самаўрад — войт Чаромхаўскай гміны Міхал Врублеўскі. Арганізатары задбалі пра скромны пачастунак і мастацкую частку, у якой выступілі хоры „Чорная ягада” і „Рудзяне” з Гміннага цэнтра культуры ў Чорнай-Беластоцкай.

Мерапрыемства ўдалося на „пяцёрку”. Пачаткова ўручаліся залатыя адзнакі для актыўных дзеячаў Саюза пенсіянераў. Атрымалі іх: Зінаіда Тарасюк, Мар'я Назарук, Яўгенія Верамчук, Барыс Кердалевіч, Уладзімір Данілюк, Дзмітры Гапанюк і Сяргей Беразовіч.

Ад Саюза ветэранаў за грамадскую дзейнасць у карысць гэтай арганізацыі медалі атрымалі войт Міхал Врублеўскі, Ян Качаноўскі (удзельнік абароны Вестэрплятэ) і Васіль Астапковіч.

Ад імя ўзнагароджаных са словамі падзякі выступіў кіраўнік мясцовага самаўрада Міхал Врублеўскі. Затым пачалася неафіцыйная частка, пачастунак. Паступілі першыя тосты: за поспехі арганізацыі і заслужаных ветэранаў, за лепшую будучыню, якім спадарожнічалі спевы жанчын з Чорнай-Беластоцкай. Да танца бадзёра ігралі маладыя музыканты: Мар'юш Козак, Данель Віхоўскі і Ірэнэуш Маеўскі. Доўга гулялі ўдзельнікі мерапрыемства, а калі наступіў час развітання і жанчыны з Чорнай заспявалі „Як шыбко мія жыце”, неяк сэрца ўстрывожана затрапятала і слязінка ў вачах паказалася не ў аднаго старэчы.

— Запрашайце яшчэ раз нас да сябе, — чуліся галасы харыстак.

— Прыязджайце! — адказвалі чаромхаўскія пенсіянеры.

Так вось закончылася незвычайнае мерапрыемства чаромхаўскіх пенсіянераў.

**Уладзімір СІДАРУК**

# Візіт

Вен'ямін Сацкі — гэта рэдкае імя і прозвішча. На ўсю нашу аколіцу, здавалася, другога такога і не знойдзеш. А калі б і паявілася адно з іх, то ніяк не ў пары, думалася. Але гэта толькі так думалася. Жыццё, аднак, багацейшае ад нашых думак і напэўна любіць яно прыпадносіць нам сюрпрызы.

Так і тут, у мясцовасці (умоўна назавем яго Першым) Вен'яміна Сацкага паявіўся яшчэ адзін (назавем яго Другім) Вен'амін Сацкі. Даведаўшыся аб гэтым наш Першы Сацкі спачатку нават узрадаваўся: „Нашага палку прыбывае” — радасна падумаў ён. Радасць яго была аднак заўчаснай. Ён яшчэ не ведаў тады, што Другі Сацкі яму, а правільней кажучы, яго прозвішчу быў пагрозай, канкурэнцыяй, так бы мовіць, яго фамільнаму прэстыжу, над якім ён старанна і ўпарта, крошка па крошцы, працаваў многія гады. І эфекты, трэба прызнаць, атрымаліся някепскія. Вен'ямін Сацкі пачаў ужо штосьці значыць у нас. У станоўчым сэнсе, канешне.

І паявіўся Другі Вен'ямін Сацкі, ён адразу становіцца Першым Вен'ямінам Сацкім. Ён проста з ходу набыў сабе славу і папулярнасць яго ўсё расла і расла. Гэта дзякуючы яму імя і прозвішча „Венька Сацкі” хутка ператварыліся ў самастойны лінгвістычны выраз з багацейшым унутраным зместам. У ім цесна перапляліся з сабой такія лінгвістычна-юрыдычныя паняцці, як дурань, гультай, злодзей, п'яніца, авантурыст, лайдак, а магчыма і яшчэ штосьці. Калі хто хацеў у сварцы палажыць свайго праціўніка на лапаткі (у маральным сэнсе), проста называў яго: „Ты, Венька Сацкі!..”

Спачатку аднафамільцы знаёмымі адзін з другім не былі. Але хутка спрыяльны лёс звёў іх. А правільней кажучы, сам Венька Другі паявіўся ў хаце Венькі Першага, каб удакладніць іх кроўныя, сваяцкія сувязі. Ён быў абсалютна перакананы ў тым, што абодва яны галіны таго ж самага радаслоўнага дрэва. З'явіўся і адразу з парога:

— Гэта праўда, што тваё прозвішча Сацкі?

— Самая найпраўдзівейшая, — ветліва адказаў Першы.

— І я Сацкі! Калі не верыш, вось мой пашпарт.

— Чаму не веру, веру і радуюся.

— А як завуць цябе? — далей дапытваўся Другі Сацкі.

— Веня.

— І я Веня! — аж падскочыў ад радасці.

— А як завуць тваю жонку?

— Вера.

— Ё... тваю маць, то ж і мая Вера! — весела і ласкава замацюкаўся Венька.

— А як завуць твайго бацьку? — далей экзаменаваў падпіты Вен'ямін Другі.

— Іван.

— А майго Мікалай, — спускаючыся з радаснага тону і нейк сканфужана адказаў Венька. Па выражэнні яго даўно нябрытага і многае пабачыўшага твару было відаць, што ён гатовы быў проста даць аплявуху свайму, ужо пакойнаму, продку, за тое, што той так неразважна паступіў са сваім імем.

— Але і так мы з табой сваякі! — рашуча закончыў.

— Магчыма, — панура згадзіўся Першы...

Дыялог гэты, аказваецца, дакладна кантралявала жонка Першага, аб прысутнасці якой, відаць, ад радасці з-за візіту так дастойнага госця і сваяка, ён нават забыў. Пачуўшы аб сваяцтве мужа з Венькам-алкашом, яна нейк нервова заёрзала на крэсле, што яно, беднае, аж заскрыпела. Муж ужо дакладна ведаў, што гэта значыць. Знаў таксама цану, якую прыйдзецца яму заплаціць, калі не падпарадкуецца гэтаму тонкаму намёку. І ён схамянуўся, нібыта ўспомніў аб нейкай неадкладнай справе і пачаў сімуляваць выхад з дому. Яго новы сваяк ясна, хаця і неахвотна, зразумеў, што на гэты раз выпіўка не адбудзецца і незадаволены павалокся з хаты.

**Васіль САКОЎСКІ**

Якія мы людзі

## Зайздроснікі

Давялося мне пабываць у вёсцы М. Ведаюць мяне там добра, таксама і пра тое, што калі пра штосьці распытваю, то напэўна напішу ў „Ніву”. Давялося мне тым разам пагутарыць з Мітрафанам, які адразу ўзяўся мне распавядаць пра суседа, якому вельмі ж цяпер добра жывецца.

— Бачыш, — расказваў, — яны чатырох на гаспадарцы маюць трактар ды ўсе неабходныя машыны, да таго гадуюць шмат малочных кароў. Маюць грошы за малако, да таго яшчэ тры пенсіі прыносіць ім пісьманосец, што такім зробіць бяда! Пабудавалі сабе прыгожыя новыя будынкі, парабілі новыя печы, ваду правялі дадому, то і на панадворак ім цяпер выходзіць не трэба!

Я рушыў у вёску. Завёў гутарку з Яўгенам. А той мне адразу пачаў распавядаць, як то цяпер Мітрафану найлепш у вёсцы жывецца. Вось, бачыш, Мітрафан з жонкай то як хварэлі, каб перайсці на пенсію, бо ж не маглі абрабляць сваю гаспадарку, а цяпер, калі ўжо на пенсіі, то і Мітрафан, і ягоная Гапка здаровымі раптам парабіліся, пабудавалі сваім дзецям хату ў Гайнаўцы, набралі ў арэнду дзяржаўнай зямлі, а сваю гаспадарку перапісалі на сына, а яе, вядома, самі абрабляюць... І стараюцца, каб першымі абрабіць у вёсцы, бо калі хто-небудзь першы справіцца, то ім жываты баляць... А сын іхні цяпер на „куранёўцы”, бо гарадскія ўлады, бачыце, не ведаюць, што ў яго ёсць гаспадарка... Во, як такім людзям цяпер добра жывецца!..

А наступны мой субяседнік, Ігнат, запрасіў мяне на чаёк, а мо і нават і чвэртку, паўспамінаць мінулае, як то колісь весела жылося... Ігнатава Таццяна нарэзала закусі. Ужо пры першым кілішку пачаў Ігнат разважаць, якія цяпер у вёсцы людзі.

— Сусед суседа ў лыжцы ўтапіў бы, калі ён лепей жыве! Падзівіся, нашы пенсіянеры як жарабцы здаровыя, а абрабляюць свае гаспадаркі перапісаныя на сваіх гарадскіх дзяцей, пабралі яшчэ і па 10 гектараў зямлі дзяржаўнай, дзецям пакуплялі дамы, машыны... Я яшчэ крыху зямлі абрабляю, — прызнаўся Ігнат. — Мае дзеці прыязджаюць, каб узяць бульбы, бо я ўжо хаджу з кійком, малы з мяне работнік. Добра, што аб’язная крама прыязджае тры разы ў тыдзень у вёску, прывязе неабходныя харчы. Хоць намнога даражэй бяруць, але купіш.

Яшчэ доўга наракаў Ігнат, што сусед на суседа глядзіць ваўком, дзякаваў Герку за тое, што сялянам прызнаў пенсіі і не даў каб паўміралі з голаду ці мусілі жабраваць.

**Мікалай ЛУК’ЯНЮК**

## Кантрыбуцыя

Майго дзядзьку Мяфодзія за палітыку пасадзілі ў 1935 годзе на тры гады ў цяжкую турму; у суботу — дзень перад вяселлем. Калі ў 1938 годзе выйшаў ён на свабоду, не мог атрымаць ніякае работы, бо камуністам пасля турэмнага зняволення давалі г.зв. воўчы білет. З гэтай прычыны працягваў ён сваю дзейнасць з сябрамі: Васькам Тамашуком, Грышам Лемешам і іншымі. Аднойчы ўзнікла ў іх думка напісаць пісьмо-кантрыбуцыю таму чалавеку, праз якога мой дзядзька папаў у турму.

Пісьмо пісаў Васька Тамашук, бо меў разборлівы і прыгожы почырк. Напісалі яму, абзываючы вострымі мянушкамі, каб за клунямі вечарам вылажыў пад вялікі камень тысячу злотаў; а калі не — тады яму каюк.

Напісанае па-руску пісьмо злажылі ў трохкутнік і ўначы падкінулі пад дзверы багацея-даносчыка; было гэта напрадвесні 1939 года. Раніцаю прыкмеціў ён пісьмо, падняў і прачытаў; па почырку пазнаў, хто тое пісьмо пісаў. Вылаяўся ён груба, сеў на ровар і паехаў на пастарунак аж у сам Бельск; думаў ён, што санацыя будзе панаваць і мучыць беларусаў вечна. Камендант, прачытаўшы пісьмо, сказаў: „Я іх навучу!” І была валакіта, бо цягалі ўсіх на паліцыю і страшылі, а найгорш выглядала справа майго дзядзькі, бо толькі што вярнуўся з турмы і быў моцна падазроны.

І бадай кратаў было б ім не мінаваць, бо паліцыя сярдзіта ўзялася за справу, але ўспыхнула вайна і ўсё правалілася. Немцы праз тры тыдні захапілі Польшчу, якая была магутная толькі ў адносінах да нашых людзей: мучыць іх, не даваць работы, асветы, лячэння, сацыяльных паслуг...

Але дубіцкаму даносчыку волас з галавы не зляцеў, бо ён да кожай улады патрапіў умела падшыцца. І такія людзі ніколі не прападуць.

**Мікалай ПАНФІЛЮК**

## Як я стаў акцёрам

Са сцэнічнай дзейнасцю сутыкнуўся я ўпершыню ў васьмідзесятых гадах, калі жыў яшчэ ў Відаве. Тады ў Бельску-Падляшскім у клубе БГКТ дзейнічаў тэатр „Парнас”, якім кіраваў Янка Мордань. У спектаклі, які ставіўся „Парнасам”, я выконваў ролю Апанаса Пісарчука. І вось цяпер, у Ольштыне, надарылася мне нагода зноў выйсці на сцэну. Гэтым разам тэатр „Diochy” падрыхтаваў пастаноўку народнай казкі „Kłobuk Oczajdusza”, у якім я выконваю ролю прускага язычніцкага бажка Смэнтка (Smętka).



*Аўтар у ролі Смэнтка.*

Нядаўна наш тэатр запрасілі ў Біштынак на Ваяводскі турнір казак, легенд і паданняў, які ўжо трэці год ладзіць мясцовы асяродак культуры. Сёлета ў турніры прыняло ўдзел 10 тэатральных калектываў і 6 расказчыкаў. Пасля турніра ўсіх удзельнікаў мерапрыемства арганізатары завезлі ў адпачынковы цэнтр у Лютрах (70 км ад Ольштына), дзе нас пачаставалі абедам і ўручылі прыгожыя дыпломы.

**Андрэй ГАЎРЫЛЮК**

## ВЕР — НЕ ВЕР

Астроне! Прысніўся мне такі сон. Быццам усё дзеецца ў маёй роднай хаце на вёсцы. Быццам бы я прыехаў самаходам. Ужо распранаюся, але прыпомніў, што, бадай, забыўся замкнуць машыну. Паяўляецца мая жонка, апранутая абы-як, відаць, спяшалася. Пасля бачу і дачку.

Далей каля нашай студні паяўляецца сусед з Беластока, які нядаўна памёр. Ён мне расказвае пра сваю ўнучку, якая не дала рады скончыць пачатковую школу і нікуды не будзе паступаць. Я яму тлумачу, што павінен нешта зрабіць, каб ёй дапамагчы.

Дарагі Астроне! Я так мяркую, што гэтыя сны мне прысніліся ў сувязі з тым, што нядаўна памерла мая мачыха, якая жыла на вёсцы і там мы яе пахавалі. А як ты думаеш?

**АНДРЭЙ**

Астроне! Я з маім сынком збіраюся ехаць у Варшаву ў Цэнтр здароўя дзіцяці. Вельмі непакоюся, што пакажуць там даследаванні. І вось што прыснілася майму малому. Быццам на яго навалілася шафа, якая стаяла ў яго пакоі, прыдушыла яго. Ён, бедны, так перапужаўся, што аж прачнуўся і расплакаўся. Пэўна, чакаюць нас сумныя вескі?

**МІЛЯ**

Андрэй! Твой сон сапраўды выглядае так, быццам бы быў навеяны рэчаіснасцю. Нейкі непакой праследуе цябе (ці хаця замкнуў машыну?), жонка твая апранутая абы-як (гэта сведчыць аб нейкай страце ці недахопе нечага). А тут паяўляецца і сусед-нябожчык і ты слухаеш пра яго клопаты, непакоячыся, што так з яго ўнучкай выйшла. Мяркую, што сапраўды сон навеяны сумнай актуальнай рэчаіснасцю і нічога асаблівага не абазначае.

А сон твайго сынка, Міля, гаворыць аб чакаючых вас цяжкасцях. Ну, што ж, малога чакае лячэнне, а каб лячыцца — трэба быць здаровым. Яго маленькае сэрца трапечацца ад непакою таксама.

**АСТРОН**

## Супольнасць у культуры ’99

Асяродак культуры „Арсус” з Варшавы арганізуе VIII Агульнапольскі агляд мастацкіх дасягненняў нацыянальных і этнічных меншасцей „Супольнасць у культуры ’99”, які адбудзецца 18-20 лістапада 1999 года. У рамках мерапрыемства прадугледжаны канцэрты, выставы, паэтычныя сустрэчы з мэтай папулярызацыі культуры нацыянальных меншасцей, пражываючых у межах Рэчы Паспалітай. Арганізатары запрашаюць калектывы і творцаў, асабліва тых, якія яшчэ не ўдзельнічалі ў аглядзе. Заяўкі прымаюцца да 20 верасня г.г. Арганізатары пакідаюць за сабою права падборкі выканаўцаў, а з прычыны фінансавых абмежаванняў начлегі і харчаванне гарантуюць толькі на час пабыўкі ў Варшаве.

Дэталёвую інфармацыю можна атрымаць па адрасе: Ośrodek Kultury „Arsus”, 02-495 Warszawa, ul. Traktorzystów 14, tel./fax (0-22) 662-76-26.

**(вл)**

## Фальклорны фестываль

Мастацкі калектыў „Ягуштова” з Аўгустова каля Бельска-Падляшскага атрымаў адзначэнне на IV Міжнародным дзіцячым фальклорным фестывалі нацыянальных меншасцей, які адбыўся ў Вэнгажэве. У фестывалі ўдзельнічалі 15 калектываў з Літвы, Эстоніі і Польшчы, а ў іх ліку і калектыў з Рыбалаў.

**Андрэй ГАЎРЫЛЮК**

## Пушча ў бібліятэцы

У Гарадской публічнай бібліятэцы імя Тадэвуша Ракавецкага ў Гайнаўцы па вул. 3 Мая 45 адкрылі выстаўку пад загалоўкам „Разам у пушчы”. Склаліся на яе пастэльныя малюнкі мастачкі Іаанны Кярсноўскай і здымкі фатографа Тадэвуша Тапольскага (абое яны з Гайнаўкі), зробленыя ў Белавежскай пушчы.

Экспазіцыю можна глядзець ад панядзелка да пятніцы ад гадзіны $10^{00}$ да $18^{00}$ і ў суботы — ад $8^{00}$ да $16^{00}$.

**(гай)**

## Выстаўка ў ГДК

У Гайнаўскім доме культуры па вул. Беластоцкай 2 адкрылі цікавую мастацкую выстаўку пад загалоўкам „Краіна фантазіі”. Скламіся на яе карціны членаў мастацкай групы „Дэфармацыя”, якая дзейнічае ў ГДК пад кіраўніцтвам інструктаршы Зіны Якуць. „Краіну фантазіі” можна наведваць кожны дзень (апрача панядзелкаў) у гадзінах працы ГДК.

**(гай)**






**Ніва** ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

**Выдавец:** Праграмная рада тыднёвіка „Ніва”.
**Старшыня:** Яўген Мірановіч.
**Адрас рэдакцыі:** 15-959 Białystok 2, ul. Zamenhofa 27, skr. poczt. 149.
**Тэл./факс:** (0 85) 743 50 22.
**E-mail:** niwa@kurier-poranny.com
**Internet:** *(wydanie elektroniczne w przygotowaniu)*

*Zrealizowano przy pomocy finansowej Ministerstwa Kultury i Sztuki.*
**Галоўны рэдактар:** Віталь Луба.
**Сакратар рэдакцыі:** Аляксандр Максімюк.
**Рэдактар „Зоркі”:** Ганна Кандрацюк-Свярубская.
**Публіцысты:** Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Міраслава Лукша, Аляксей Мароз, Ада Чачуга.
**Канцылярыя:** Галіна Рамашка.

**Камп’ютэрны набор:** Яўгенія Палоцкая, Марыя Федарук.
**Друкарня:** „Orthdruk”, ul. Składowa 9, Białystok.
Teksty przesyłane redakcji do druku pocztą elektroniczną powinny być dołączone do listów w postaci plików typu .RTF (Rich Text Format). Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.

***Prenumerata:***

1. Termin wpłat na prenumeratę na IV kwartał 1999 r. upływa 5 września 1999 r. Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie woj. podlaskiego i oddziały „Ruch” na terenie całego kraju.

2. Cena prenumeraty na IV kwartał 1999 r. wynosi 15,60 zł.

3. Cena prenumeraty z wysyłką za granicę pocztą zwykłą — 35,55; pocztą lotniczą Europa — 44,15; Ameryka Płn., Płd., Środk., Afryka, Azja, Australia — 61,15. Wpłaty przyjmuje „RUCH” S.A. Oddział Krajowej Dystrybucji Prasy, ul. Towarowa 28, 00-958 Warszawa. Nr konta PBK S.A. XIII Oddział Warszawa 11101053-16551-2700-1-67.

4. Prenumeratę można zamówić w redakcji. Cena 1 egz. wraz z wysyłką wynosi 2,30 zł, a kwartalnie — 29,90 zł. Wpłaty przyjmuje Rada Programowa Tygodnika „Niwa”, Białystok, ul. Zamenhofa 27, nr konta PBK S.A., I Oddział Białystok, 11101154-207917-2700-1-65.

# Ніўка



Мал. Алеся СУРАВА („Замалёўкі з Беларускай «натуры»")

**Фрашкі пра нашых**

## *Белаправаруцкі*

Суддзя Збельскі судзіць праставата:
Калі справа не сагнецца, памяняць курата—
Ра. Дурань куратар, бо цягне за падапечных,
То трэба яму наскочыць на плечы.
Згіне ўсё, што фактам сягоння не стане,
Калі не ўспомніш — як у мгле растане.
Ёлуп з вёскі прыехаў — туды і дарога!
А з пукатай кабзою — разумней ад бога,
Бо ведае, у каго з Справядлівых рукі клейкія.
Раз — і памые, як Пілат. Праўда ж — як капейка.

**Вандал АРЛЯНСКІ**

## Пра душ

Амерыканская спявачка пуэрта-рыканскага паходжання Джэніфер Лопес дагаварылася ў Маямі даць інтэрв'ю нейкаму журналісту і з'явілася перад ім у суправаджэнні дваццаці пяці асілкаў, якія неслі за ёю мабільны душ. Сказала яна што не любіць пацець і таму патрабуе абмывацца; найпрыемней у вадзе нагрэтай да тэмпературы 18°—24° па Цэльсію. Як наогул вядома, у шчаслівым свабодным свеце нічога няма дарам і таму пэўна за ўсе расходы на тое інтэрв'ю вымушана была расплаціцца журналістава ўстанова. Я б таксама ахвотна паразмаўляў з такою артысткай пад нейкім душам ці нават балдахінам абложаным тэрмафорамі, але сумняваюся, ці мая ўстанова дасць мне пуцёўку на Фларыду. Таму замест інтэрв'ю будзе пра інтэрв'ю.

Адзін беластоцкі футбаліст у пошуках хлеба паехаў ганяць мяч аж у Рыо-дэ-Жанейра, а тамашнія газеты высвятляць такую незвычайную падзею даручылі найпрыгажэйшай дзяўчыне Бразіліі! А далей было ўжо нармальна, як у казцы: нехта мёд піў, па губах цякло, а ў роце не было...

Уявім сабе, што ён, узорам Джэніфер Лопес, мог абнародавацца для інтэрв'ю ў суправаджэнні дваццаці пяці масажыстак з балеяй. То ж пасля купання ў такой кампаніі нават такі чэмпіён як ён наўрад ці змог бы не толькі даць інтэрв'ю, але нават узвесці вочы, нават на найпрыгажэйшую дзяўчыну ў цэлым Рыо-дэ-Жанейра...

Не кожны, хто падаецца на сустрэчу, дбае пра свой імідж так як Джэніфер Лопес; ёсць і такія, што замест мыцца пульверызуюцца дэзадарантам. Многія маладыя людзі свае шкарпэткі, замест мыць, паднаўляюць духмяным пульверызатарам: псык, псык — і ўжо, без лішняга клопату, свежанькія! А бедныя студэнты як жывуць? Прасіць адзін другога: пазыч мне свае шкарпэткі. Бяры, адказвае другі, стаяць пад ложкам...

Неўзабаве душ, не толькі мабільны, перастане быць неабходным. Японскія дызайнеры прыдумалі бактэрыцыдную бялізну з бавоўны, насычанай дэзадарантамі і абсарбентамі, якая не дазваляе разводзіцца бактэрыям пражываючым на чалавечай скуры; менавіта тыя бактэрыі і адказныя за непрыемны пах поту.

Цяпер, здавалася б, Джэніфер Лопес можа ехаць у Японію без душа з асілкамі. Але гэта рызыкоўна. Вось нядаўна тамашняя паліцыя ўлавіла калекцыянера, які меў хобі збіраць ліфчыкі і трыко маладых жанчын; у ягоным гардэробе даглядальнікі парадку знайшлі восем тысяч акуратненька ўпарадкаваных бялізнавых адзінак. Паколькі Джэніфер Лопес і маладая, і прыгожая як лялька, дык і яе дэсу апынулася б у небяспецы. Вось бяда: каб купіць выраб, які б вызваляў ад клапатлівага туалету, трэба везці за сабою дваццаць пяць асілкаў з мабільным душам.

Сёння ліфчыкі, апрача самых каштоўных традыцыйных каштоўнасцей, аснашчаюцца каштоўнасцямі і больш мадэрнымі. Напрыклад антыгвалтавальнымі датчыкамі, якія на выпадак эмацыянальнага сардэчнага ўздыму падаюць сігнал трывогі цераз адмысловую спадарожнікавую сістэму ў паліцыю і...

Цывільны чалавек можа ўяўляе сабе, што паліцыя з'яўляецца аазісам бяспечнасці, а гэта няпраўда. Вось у Мюнхене адзін даглядальнік парадку, камісар, хацеў, відавочна, узяць душ на працы, і распрануўся ў паліцэйскім участку да бялізны. Яго супрацоўнік далажыў пра гэта ў суд. Суд палічыў паводзіны камісара некарэктнымі і прысудзіў яму штраф размерам васьміны яго пяцігадовай зарплаты.

Гігіена — справа каштоўная!

**Адам МАНЬЯК**

## Двухлітарная крыжаванка

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 1 *2* | *3* | 2 *1* | | 3 | | 4 |
| | ■ | 5 | 6 | | ■ | |
| 7 *6* | 8 | ■ | | ■ | 9 | |
| | 10 | | | *5* | | |
| 11 | *4* | ■ | | ■ | 12 | 13 |
| | ■ | 14 | | 15 | ■ | |
| 16 | | | | 17 | | |

**Гарызантальна:** 1. кавалак бервяна на паліва, 3. парадак абрадавых дзеянняў, 5. Леў, грамадскі дзеяч Вялікага княства Літоўскага з роду аршанскіх баяр (1557—1633), 7. сталіца Бангладэш, 9. мучны выраб з рэдкага цеста спечаны на скавародзе, 10. мытня на адгалінаванні галоўных гандлёвых шляхоў у Вялікім княстве Літоўскім, 11. святая гара ў Грэцыі, 2033 м., 12. англійскі горад з арыстакратычным каледжам, заснаваным у 1440 г., 14. атрута Сакрата, 16. Герберт фон, аўстрыйскі дырыжор (1908—1989), 17. колючая халодная зброя з чатырохгранным доўгім клінком.

**Вертыкальна:** 1. будыйскі храм, 2. сталіца Багамскіх Астравоў, 3. сталіца Латвіі, 4. англасаксонскі філосаф, дарадчык Карла Вялікага (730—804), 6. штат на ўсходзе Бразіліі з Рэсіфі, 8. штучнае валакно высокай трываласці, 9. светла-сіні колер, 11. суседка Еўропы, 13. сталіца Турцыі, 14. бясколерны ядавіты газ з рэзкім горкім пахам, злучэнне вугляроду з азотам, 15. упакоўка тавару. **(Ш)**

Рашэнне крыжаванкі складуць літары з пазначаных курсівам палёў. Сярод чытачоў, якія на працягу месяца дашлюць у рэдакцыю правільныя рашэнні, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Ліст у рэдакцыю**

Добры дзень, паважаныя журналісты газеты „Ніва"!

Хачу паўдзельнічаць у штотыднёвых конкурсах па разгадцы крыжаванак. Я спрабавала разгадаць двухлітарныя крыжаванкі. Практычна ўсе словы я ведала, але я ніяк не магу зразумець, як гэтыя адказы ўпісваць у клеткі. Ці не маглі б вы растлумачыць, як трэба вырашаць такога тыпу крыжаванкі ў якім-небудзь з выпускаў газеты.

**Надзея СЦЯПАНАВА, Віцебск**

Як паказвае сама назва крыжаванкі, у клеткі трэба ўпісваць па дзве літары, а затым з пазначаных курсівам клетак браць тыя ж пары літар для рашэння. І ўсё!

Жадаю поспехаў! **(Ш)**

**Адказ на крыжаванку з 22 нумара**

**Гарызантальна:** гарыла, лупіна, макака, араб, бяда, абсентэізм, Крак, Енка, арыйка, лаянка, рабочы.

**Вертыкальна:** ганчар, лама, Лука, нагода, каментарый, абабак, бязмен, крэсла, Карачы, арка, кара.

Рашэнне: **Янка Лучына**.

Кніжныя ўзнагароды высылаем **Казіміру Радошку** са Свебадзіцаў і **Мікалаю Сазановічу** з Навін-Вялікіх.

## *Кароткі курс параноі*

**Як расплаўлялася сталь**

Было ў 1953 годзе. У вітальні апраметнай з'явіўся лупаты тып у зношаным паўформенным фрэнчы пад таварыша Сталіна.

— Мне да шэфа! — прафесійна гыркнуў, уставіўшы алавяны зрок у жалезныя дзверы.

— У якой справе? — спытала стража.

— Па энкавэдэшнай лініі.

Стража, апазнаўшы прыходня, расступілася:

— У добры час!

Бразнула ў дзвярах клямка. Шусь! — і няма лупатай з'явы. А праз хвіліну за жалезнымі дзвярыма грымнула. Адчынілася вентыляцыйнае акно і пачуўся службовы голас качагара з абслугі рускага катла:

*Уберите трусливого Берию! Наделал в штаны, загадит котел. Не достоин топки дохлых особого склада. Отправить в зону бесхребетной нечисти.*

Адчыніліся важкія дзверы. Чэлядзь, са скрыўленымі ад агіды тварамі, вынесла запэцканага ўласнымі адыходамі Берыю. Пад'ехала чорная душагубка.

— Улазь, лупатая амёба!

— Ах, каб гэта чуў Коба! — Берыя азірнуўся назад, але Кобы няма. І сеў у чортаў тарантас.

Сведчыў

**Сідар МАКАЦЁР**

(Апраметная)

P.S. Коба ўсё чуў, толькі саромеўся свайго размагнічанага падручнага. Плюнуў з пагардай і пайшоў ачышчаць катлы для размагнічаных саратнікаў.

***Факс сябравіцкага паэта Галавасцюка:***

**Паслуга за паслугу**

Вазіў зэкаў Берыя
У сваю імперыю.
У новай імперыі
Зэкі возяць Берыю.

## „Даўціпы" Андрэя Гаўрылюка

Урок матэматыкі:

— Колькі гадоў асобе народжанай у 1950 годзе? — пытае настаўніца Пецю.

— Гэта залежыць...

— Ад чаго?

—... ці гэта мужчына, ці жанчына!

* * *

— Чаму халасцякі худыя, а жанатыя тоўстыя?

— Бо калі халасцяк вернецца дадому, загляне ў халадзільнік і калі ўбачыць, што пусты, тады ідзе ў ложак спаць. Калі дадому вернецца жанаты, найперш заглядае ў спальню і ўбачыўшы, што няма там нічога цікавага, ідзе да халадзільніка...

* * *

— Якое лякарства на любоў з першага погляду?

— Глянуць другі раз.

* * *

— Калі муж пазнае сваю жонку?

— Недзе ў тры-чатыры дні пасля шлюбу.